PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (2189) Год XLIII Беласток 26 красавіка 1998 г. Цана 1 зл.



„Праміная́не”. Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## На прыкладзе Бельска

Мікола ВАЎРАНЮК

Пікеты пад Сеймам і Радай Міністраў. Дэманстрацыі ў прысуджаных на знікненне ваяводствах. Пратэсты, петыцыі, патрабаванні. У такой атмасферы ўводзіцца новы тэрытарыяльны падзел Польшчы.

Беласточчына прыглядаецца гэтаму спектаклю адносна спакойна. Па-першае, Беластоцкае ваяводства і так будзе (нават са сталіцай у Белавежы, як пастулуе Адам Маньяк на 12 старонцы) ды, па-другое, нічога не паказвае, што якія-небудзь адміністрацыйныя рэформы зраўняюць эканамічна „Усходнюю сцяну”, дапусцім, з Варшавай ці Вялікапольшчай.

А што нам, беларусам, гэтыя перападзелы дадуць (або забяруць)? Ніхто, пакуль, з нашай грамадскасці пра іх словам не азваўся, як быццам нас гэта зусім не кранае. А тым часам, хопіць узяць карту і прыглядзецца пастулаваным паветам. Беларусы будуць жыць, больш або менш кампактнай масай, у пяці паветах: Сакольскім, Беластоцкім, Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім.

Якая сітуацыя на Сакольшчыне — вядома. Большасцю каталіцкае насельніцтва, хоць яшчэ на вёсках карыстаецца беларускай мовай, даўно выбрала шлях у палякі і, здаецца, беззваротна. У ваколіцах Сямятыч, дзе ўжо некалькі дзесяткаў гадоў няма нават навучання беларускай мовы ў школах, людзі трымаюцца праваслаўя, але з нацыянальнай свядомасцю бывае па-рознаму. У межах будучага Беластоцкага павета беларушчына жыве толькі ў Гарадку. На Міхалова дарма спадзявацца. Бельскі павет з Браньскам, Боцькамі і Вышкамі таксама будзе большасцю польскі. Адна толькі Гайнаўшчына будзе выразна беларуская.

Якое гэта мае значэнне? А хаця б такое: паставіцца новая адміністрацыя прыхільна да беларускай мовы ў школах, ці не, выдзеліць грошы на беларускі калектыў, ці лепш замест яго стварыць нейкія „Мазавецкія зязюлі”. Пра магчымасць карыстацца беларускай мовай ва ўстановах няма што і казаць, бо на сённяшні дзень не знойдзецца на гэта ахвотных.

Калі ў пачатку 90-х стваралася Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, хтосьці сказаў, што павінна быць яно партыяй гмінnай. Значыць, займацца мясцовай палітыкай, жыць штодзённымі клопатамі тутэйшых людзей. БДА, на жаль, у гмінах — за выключэннем Гарадка — ніколі не замацавалася. Тым не менш, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ёсць некалькі гмінаў, якімі кіруюць беларусы (хаця б таму, што там амаль няма палякаў). Да іх у мінулым чатырохгоддзі далучыўся і горад Бельск, дзе і бурмістр, і старшыня Гарадской рады — з Беларускага выбарчага камітэта. На яго прыкладзе можам паглядзець, якая карысць беларусам ад свае ўлады ды якія аспірацыі саміх жыхароў. Найлепш гэта відаць на грошах.

У мінулым годзе Гарадская рада Бельска выдзеліла: 4 тысячы злотых Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству на правядзенне Спасаўскіх запустаў, столькі ж Звязу беларускай моладзі на Бардаўскую восень, 6 тысяч „Маланцы”, 5,5 тысячы „Васілёчкам”, 2 тысячы „Дзявочым ноткам”. У гарадскім Бельскім доме культуры праводзіцца цэлы шэраг беларускіх мерапрыемстваў. Пачатковая школа н-р 3, у якой усе дзеці вывучаюць беларускую мову, атрымала грошы на абсталяванне гімнастычнай залы і пабудову новай агароджы, Агульнаадукацыйны ліцэй імя Б. Тарашкевіча — хаця ён не ў кампетэнцыі горада — на рамонт паверха, якім карыстаецца суседняя „тройка”. Да таго можна дадаць бясплатна перададзеную Прачысценскаму прыходу зямлю пад новыя могілкі ды за чыста сімвалічную залатоўку пляц па вуліцы Рэйманта пад новую царкву. Чатыры тысячы атрымала таксама Праваслаўная спартыўная арганізацыя на сваю спартакіяду. Іканапісная школа тры гады задарма карыстаецца камунальнымі памяшканнямі і, пэўна, атры-

[працяг ☞ 3]

## У нумары

# Мы прачыталі

*We Włoszech Polki klasyfikowane są gdzieś pomiędzy Rumunkami i Arabkami. Jesteśmy traktowane i postrzegane przez Włochów jak dziwki. Jak zobaczą kogoś przechadzającego się, a szczególnie kobietę, to na pewno Polka — zaraz zatrzymuje się samochód i pada propozycja, żeby się gdzieś przejechać. Jesteśmy postrzegane jak prostytutki, nie mają o nas najlepszego zdania. Jesteśmy tanie. Tam są dla nas tylko dwa zawody: sprzątaczka i opiekunka do dziecka. Oni sobie nie wyobrażają, aby Polka mogła coś innego robić. Płaca w przeliczeniu na nasze pieniądze 1000 zł miesięcznie. Na domiar złego są przekonani, że to dużo, że robią wielką przysługę, pozwalając nam, takiej dziczy ze Wschodu, przyjechać do ich pięknego kraju. Jest w Rzymie kościół „polski" — miejsce spotkań Polaków. Zawsze dwa wozy policyjne stoją, bo uważają, że jak Polacy to rozróba. Jak człowiek popatrzy na tych ludzi zaczyna wstydzić się za swój naród, że jest Polakiem. Kobiety — koszmarne fryzury, fatalnie pofarbowane, makijaż jak u ruskiej lalki, brzydkie zęby. Faceci ciągle pijani.*

*Włosi nie wyglądają również jak Mastroianni. Są przede wszystkim niscy, noszą tandetne mokasyny i wzorzyste skarpety, jaskrawe koszule, a każda rozpięta i wyeksponowany zarost na piersiach i szyja obwieszona złotem jak u Ruskich z bazaru na Kawaleryjskiej. I brzuchy strasznie wystające. Poza tym są obleśni, chamscy, bezczelni i nieprzyjemni, śmierdzi im z gęby,* — успамінае студэнтка з Беластока.

*Kurier Poranny, nr 84*

* * *

*Przy okazji krytyki dziennikarzy za ich nierzetelność, brak moralności (!) i uprzedzenia pod względem kierowanej przez niego organizacji, poseł Syczewski powiedział m.in.: „Jeszcze bardziej zaskakuje fakt, że niektórzy redaktorzy krytykują nas (BTSK) za to, że nie zrywamy kontaktów z władzami Białorusi, a sami otrzymują znacznie większe, że tak powiem, dotacje czy premie, niż jakiś tam zegarek. To — o dziwo — wszystko jest w porządku. Bardzo chętnie przyjmują. Wiemy o co chodzi. (...) Piszą o tym niejednokrotnie redaktorzy, których dzieci uczęszczają w Białymstoku do przedszkola otrzymującego kilkakrotnie większe dary z tych samych źródeł co i my". (...) Z całą odpowiedzialnością za swoje słowa twierdzę, że poseł SLD i przewodniczący BTSK kłamał, mówiąc w Sejmie, że z tytułu posyłania dzieci do białoruskiego przedszkola ja i moi koledzy dziennikarze innych mediów białoruskich czerpaliśmy jakiekolwiek profity osobiste. Było akurat odwrotnie, ale to nie czas i miejsce, a z całą pewnością nie ten polemizant, któremu mógłbym to tłumaczyć. Żeby sprawa była jasna do końca — nie życzę sobie, żeby ktokolwiek wykorzystywał moje dziecko do swoich rozgrywek politycznych. Są jakieś granice przyzwoitości, których nikt, nawet poseł SLD, nie powinien przekraczać,* — піша Юрка Каліна.

*Czasopis, nr 4*

* * *

*Przyszłość rządu Jerzego Buzka coraz częściej sfery polityczne wszystkich odcieni uzależniają od tego, czy uda mu się przeprowadzić reformę administracyjną. Jeżeli tego nie zrobi, może stać się gabinetem dryfującym od budżetu do budżetu. Może też upaść jako gabinet niezdolny do działań zdecydowanych, pozbawiony wizji państwa, do jakiego chce zmierzać. Rząd coraz wyraźniej zdaje sobie z tego sprawę.*

*Polityka, nr 14*

* * *

*Ostentacyjne odrzucanie moralizatorstwa, po czterech miesiącach sprawowania władzy, może się dla solidarnościowych polityków skończyć jeszcze gorzej, niż dla ich poprzedników — postkomunistów. Zrozumiał to nawet warszawski taksówkarz, który zamęcza swych pasażerów częstym powtarzaniem jednego zdania: „Głosowałem na „Solidarność", a to też złodzieje".*

*Gazeta Wyborcza, nr 81*

Добра, што амаль у кожных выбарах выступае Беларускі выбарчы камітэт. Той, хто аддае голас на БВК можа быць упэўнены, што не выбірае „злодзея". Кандыдат БВК ніколі не будзе нават мець нагоды, каб штосьці ўкрасці.

* * *

*Сучасны пракурор павінен быць не толькі высокакваліфікаваным юрыстам, але і палітолагам і нават дыпламатам,* — заяўляе прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 67*

Павінен ведаць перш за ўсё чаго ад яго чакаюць вертыкальшчыкі.

* * *

*Дзяржаўны лад Беларусі характарызуецца тым, што амаль усе паўнамоцтвы ў дзяржаве належаць прэзідэнту. З моманту абрання на прэзідэнта ў чэрвені 1994 года Лукашэнка паступова сканцэнтраваў у сваіх руках практычна ўсю ўладу ў краіне. КДБ і Міністэрства ўнутраных спраў, падпарадкаваныя прэзідэнту, заставаліся асноўнымі органамі ажыццяўлення законаў і выканання паліцыйных функцыяў. Пад непасрэдным кантролем Лукашэнкі Служба Аховы прэзідэнта, якая працягвае дзейнасць супраць супрацьнікаў прэзідэнта без найменшага кантролю з боку судовай і заканадаўчай уладаў. Сілы бяспекі рэгулярна збіваюць затрыманых і зняволеных, парушаюць правы грамадзян на прыватнае жыццё, абмежавалі свабоду слова і друку, права на сходы і аб'яднанні. Пасля рэферэндуму 1996 г. судовая ўлада падпарадкавана стала прэзідэнту. Ён мае права прызначаць і звальняць усіх суддзяў.*

*Беларус, н-р 452*

Такую ўладу маюць ужо толькі таварышы з Паўночнай Карэі.

# З мінулага тыдня

**Радаван Караджыч**, былы лідэр баснійскіх сербаў, праўдападобна скрываецца ў Беларусі, — заявіла парыжская газета „Le Monde", спасылаючыся на французскую разведку. Паводле гэтай крыніцы, Караджыч наладзіў кантакт з амерыканскімі юрыстамі, якія маюць узгодніць умовы, на якіх мог бы ён здацца ў распараджэнне Трыбунала па справах ваенных злачынстваў у былой Югаславіі ў Гаазе. Вестку аб прабыванні сербскага лідэра на тэрыторыі Беларусі аспрэчыла беларускае Міністэрства замежных спраў. „У мяне няма ніякай інфармацыі на гэту тэму", — заявіла віцэ-міністр **Ніна Мазай**. „Гэта недарэчнасць, — сказаў загадчык консульскага аддзялення МЗС **Міхаіл Аляксейчык**. — Ад грамадзян былой Югаславіі патрабуюцца візы. Калі б Караджыч атрымаў візу, я першы ведаў бы аб гэтым. Ну, хіба што Караджыч нелегальна ўехаў на Беларусь цераз амаль не пільнаваную мяжу з Расеяй". Паведамленні французскай штодзёнкі аспрэчыў таксама **Джэймс Рубін** — прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША.

**На 32-34%** зменшылася ў I квартале гэтага года колькасць грамадзян Расеі і Беларусі, якія перасяклі ўсходнюю мяжу Польшчы ў параўнанні да аналагічнага перыяду мінулага года. За тры месяцы гэтага года агульны рух на ўсіх польскіх граніцах павялічыўся на 9%. Галоўная камендатура Гранічнай аховы лічыць, што змяншэнне колькасці наведвальнікаў з Усходу — гэта вынік дзеючага з канцом снежня мінулага года закона аб іншаземцах і ўвядзення новых законаў у Беларусі і Расіі. Неўзабаве будзе распрацаваны дэталёвы рапарт пра сітуацыю на польскай мяжы.

**Прэм'ер-міністр Ежы Бузэк** заявіў, што ўшчыльненне ўсходняй мяжы ў пачатку 1998 года прынесла шмат „вельмі выразных з пункту гледжання функцыянавання дзяржавы і гаспадаркі" карысцей, хаця былі групы грамадзян, у якіх па гэтай прычыне ўзніклі клопаты з вядзеннем гаспадарчай дзейнасці. Наконт таннейшых візаў для грамадзян Беларусі і Расеі кіраўнік урада паведаміў, што справай займаецца Міністэрства замежных спраў і неўзабаве будзе яна вырашана. Паводле папярэдніх даных, аднакратная віза для грамадзян Беларусі будзе каштаваць 5, а шматкратная — 20 долараў. Беластоцкія купцы выказваюць незадаволенасць з прычыны ўвядзення новага закона аб іншаземцах і да канца красавіка чакаюць рашэння аб таннейшых візах. У іншым выпадку, заявілі яны, у маі будуць прымяняць „самыя вострыя формы пратэсту". Прыгадаем, што 9 лютага г.г. купцы блакіравалі пагранічны пераход у Кузніцы-Беластоцкай на знак пратэсту супраць ускладненняў у гранічным руху, выкліканых новым законам аб іншаземцах.

**Фірма EuRoPol Gaz** атрымала 450 млн. дол. крэдыту ад Газпрамбанка ў Маскве на працяг пабудовы польскага адрэзка (682 км) транзітнага газапровада Ямал — Заходняя Еўропа (4000 км). Завяршэнне пабудовы польскай часткі адбудзецца на пераломе стагоддзяў каля мясцовасці Кандраткі на Беласточчыне.

**Беластоцкая зямля** будзе адным з бяднейшых рэгіёнаў краіны. Паводле беластоцкага ваяводы **Крыстыны Лукашук** адміністрацыйная рэформа краіны дазволіць усходнім ваяводствам прыцягнуць замежных інвестараў, асабліва пасля далучэння Польшчы да Еўрапейскага Саюза. Усходняя сцяна можа адыграць ролю памоста, паколькі замежныя фірмы ўжо не баяцца інвеставаць у Польшчы, а рынкі ў краінах СНД — неабмежаваныя.

# Весткі з Беларусі

**Сустрэча з Вікам**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Гансам Георгам Вікам. Кіраўнік дзяржавы станоўча ацаніў дзейнасць місіі АБСЕ і асабліва падкрэсліў, што спадар Вік прытрымліваецца шырокага, аб'ектыўнага погляду на справы ў рэспубліцы і паабяцаў сур'ёзна прыслухоўвацца да яго парадаў. Ганс Георг Вік у сваю чаргу сказаў, што Беларусь можа развівацца як дэмакратычная дзяржава.

**Рэспубліканскі суботнік**

Па загадзе Савета Міністраў 11 красавіка ў рэспубліцы праводзіўся суботнік на рабочых месцах, а таксама па добраўпарадкаванні і прывядзенні ў належны санітарны стан сквераў, паркаў і іншых зон масавага адпачынку, тратуараў і праезджай часткі вуліц, дваровых тэрыторый. У асобных выпадках урад дазволіў перанесці тэрмін суботніка на 18 красавіка або іншы дзень. Рашэнне аб суботніку прымалася, каб „падтрымаць ініцыятыву працоўных калектываў і мясцовых органаў кіравання", а рабочую групу па падрыхтоўцы і правядзенні агульнарэспубліканскай уборкі ўзначаліў намеснік прэм'ер-міністра Генадзь Навіцкі.

**Менш у рэестры партый**

Міністэрства юстыцыі выключыла некаторыя палітычныя аб'яднанні з дзяржаўнага рэестра палітычных партый. Датычыць гэта Партыі аматараў піва, Партыі „Беларускі навукова-вытворчы кангрэс", Беларускай аб'яднанай спартыўнай партыі, Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды, Партыі „Ачышчэнне", Народнай партыі „Адраджэнне". Падставай для такога рашэння стала фактычнае спыненне дзейнасці названых палітычных аб'яднанняў, а таксама неадпаведнасць колькаснага складу партый з патрабаваннем заканадаўства.

**Зона Гродгаінвест**

У беларускім урадзе праходзіць экспертызу праект стварэння ў Гродне свабоднай эканамічнай зоны пад назвай Гродгаінвест. Зона ствараецца на перспектыву бліжэйшых 50 гадоў. Яе плануецца ўключыць у склад Гродна з дакладна вызначанымі адміністрацыйнымі межамі. Тут будзе дзейнічаць асаблівы прававы рэжым у адносінах валютных, мытных, падатковых і працоўных норм. Мяркуецца, што ў свабодную эканамічную зону ўвойдуць два сектары — паўночны прамысловы вузел Грандзічы і паўднёвы шматгаліновы раён Каўбасіна.

**Стужка пра Кіта**

У сталічным кінатэатры „Змена" адбылася кінавечарына, прысвечаная Дню касманаўтыкі. На суд гледачоў была вынесена дакументальная стужка „Душа — не падарожніца", якая расказвае пра лёс выдатнага земляка, вучонага Барыса Кіта. Яго навуковыя ідэі дапамаглі чалавецтву дасягнуць іншых планет. У вечарыне прынялі ўдзел Вольга Іпатава ды аўтары фільма Рычард Ясінскі і Леў Слобін.

**Першая экспазіцыя**

Прадстаўніцтва ААН у Беларусі вырашыла паўдзельнічаць у творчым лёсе маладой беларускай мастачкі Наталлі Жыгамунт. У офісе прадстаўніцтва разгарнулася першая ў жыцці экспазіцыя студэнткі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На суд патрабавальнай публікі яна прадставіла 13 работ, выкананых у модным зараз стылі каляровай графікі.

**Нацменскі фестываль**

Першы абласны фестываль нацыянальных культур праішоў у Брэсцкім палацы прафсаюзаў. Свае таленты і ўменне паказалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, народныя ўмельцы, майстры, якія прадстаўляюць рускае, украінскае, польскае і яўрэйскае таварыствы. Лаўрэаты агляду будуць прадстаўляць Брэстчыну на II Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур, які адбудзецца ў Гродне.

**Бярозавы сок**

Прамысловая нарыхтоўка бярозавага соку пачалася ва ўсіх лясных гаспадарках Брэстчыны. Больш за ўсіх плануецца сабраць гаючага напою ў Пружанскім лесгасе — 200 тон. Рэалізуецца сок на Кобрынскі і Пружанскі кансервавыя заводы. Нарыхтоўка бярозавіку не нанясе ўрону прыродзе. Яго здабываюць з дрэў, якія дасягнулі сталага ўзросту і хутка пойдуць пад высечку.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- Бібліятэка ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы.
- З мінула Святой Гары Грабаркі.
- Хто добраўпарадкуе пустыя школьныя будынкі?

# Страчаны шанц

**І ў нас была б раённая станцыя — кажуць цяпер у Чаромсе-пасёлку, — калі б мясцовыя начальнікі пацікавіліся справай. А яны толькі за лісічкамі да рускіх ездзілі. Бізнесам займаліся, калі ў сталіцы вырашаўся лёс Чаромхі...**

**У пачатку 90-х гадоў, калі Чаромха лічылася вялікім чыгуначным прадпрыемствам, а рынкавая гаспадарка пачынала толькі з пялюшак вылазіць — пачалася рэструктурызацыя дзяржаўнай чыгункі...**

Адным з першых крокаў рэструктурызацыі была ліквідацыя раённых чыгуначных дырэкцый. Услед за гэтым арганізаваліся раённыя станцыі (РОС). У Цэнтральнай дырэкцыі ПКП (CDOKP) у Варшаве прадугледжвалася арганізацыя 20 такіх станцый, у тым ліку і ў Чаромсе. Паводле прадугледжаных новымі структурамі чыгункі крытэрыяў раённыя станцыі павінны размяшчацца ў адлегласці 80 км адна ад адной, мець у распараджэнні кваліфікаваныя тэхнічна-адміністрацыйныя кадры і памяшканні для кантораў і складоў.

**Чаромха ўмовам такім адпавядала**

Сваім абсягам займала б яна шлях ад Сямятычаў да Ляўкоў, а далей у напрамку Гайнаўкі, Семяноўкі і Белавежы, ахопліваючы прытым чыгуначны пагранічны пераходны пункт Чаромха — Высока-Літоўск. Не без значэння тут і той факт, што Чаромха мела ў пачатку 90-х гадоў новы тэхнічна-адміністрацыйны корпус з вакзальным павільёнам, памяшканнямі для кантораў і складоў, гасцiннымі пакоямі для кандуктараў, кухняй і сталовай.

У Чаромсе амаль поўная інфраструктура для працы раённай станцыі: паравознае і вагоннае дэпо, служба аховы чыгункі, аддзяленне мытнай службы, пагранічная ахова, пошта, пастарунак паліцыі, філіял банка ды шэраг прадпрыемстваў (паравознае, дарожнае, будынкаў, забеспячэння).

Чаромхаўскае грамадства з надзеяй выглядала прыхільнага рашэння цэнтральнага кіраўніцтва чыгункі ў Варшаве.

— Урэшце і нам трапляецца шанц, — казалі ў пасёлку людзі. — Прыбудзе месцаў працы і тут.

Час праходзіў, а рашэння не атрымлівалася. Трывожная вестка з хуткасцю маланкі абляцела ўсю цікую мясціны.

**У Чаромсе не будзе РОС!**

Зварухнуліся прафсаюзныя дзеячы, затраскаталі тэлефоны, паплылі пісьмы ў цэнтральную дырэкцыю ў Варшаву. Пачалася таксама зборка подпісаў у крузе патэнцыяльных кліентаў чаромхаўскай чыгункі — неўзабаве дзве старонкі машынапіснага друку запоўніліся назвамі установ, подпісамі і пячаткамі ды апынуліся на пісьмовым стале цэнтральнага дырэктара ў Варшаве.

У час, калі прафсаюзнікі пісьмова змагаліся за будучыню сваіх месцаў працы, ніхто з мясцовага начальства не пацікавіўся гэтай справай, ніхто з іх не хваляваўся лёсам працоўнага калектыву. Начальства да рускіх за лісічкамі ездзіла ды бізнесам займалася. Адзіны шанц на стварэнне ў Чаромсе раённай станцыі беззваротна страціўся. У пісьмовым адказе на выступленне прафсаюзнікаў намеснік галоўнага дырэктара цэнтральнай дырэкцыі ў Варшаве Кшыштаф Швэд паведаміў, што РОС у Чаромсе не будзе. Рашэнне абгрунтоўвалася неабходнасцю спраўнага кіравання прадпрыемствам ды эканамічнымі фактарамі. Хутка аднак

**выявілася ўсё кругельства**

— замест у Чаромсе РОС арганізаваўся ў Лукове. Як жа тут вытлумачыць факт арганізацыі аднолькавых прадпрыемстваў у адлегласці 29 кіламетраў — Лукуў і Седльцы. А тлумачэнне, як высветлілася, тут вельмі простае: дырэктар Швэд родам з-пад Лукова. Бліжэйшая целу свая кашуля, чымсьці суседава.

Пакрыўджаныя доляй працаўнікі чаромхаўскай станцыі страцілі давер да ўсіх і ўсяго. Многія страцілі працу, іншым давялося даязджаць на яе ў іншыя прадпрыемствы. Ці гэтыя людзі заслужылі на такі лёс? Пэўна ж, не. Асноўнай мэтай іхняга жыцця — добрасумленная праца. Яе вынікам з'яўляецца і клуб культуры „Калеяж", і новапабудаваны адміністрацыйны корпус, і вакзальны павільён. І дзеля чаго ўсё гэта рабілася?

Чаромха, як прыгранічнае мястэчка, карыстаецца шырокімі магчымасцямі разбудовы сваёй інфраструктуры. Умовы для гэтага ствараюць два пагранічныя пераходныя пункты: чыгуначны Чаромха — Высока-Літоўск і дарожны Полаўцы — Пяшчатка. Чыгуначны пераход з першага дня існавання лічыцца тут міжнародным — карыстаюцца ім беларусы, украінцы і расіяне, часам таксама грамадзяне заходнееўрапейскіх краін. Дарожны пераход выключна для легкавых аўтамабіляў ды толькі для польска-беларускага абмену. У лютым 1995 г. Гмінная ўправа ў Чаромсе выступіла да беластоцкага ваяводы з прашэннем

**змяніць статус дарожнага перахода**

на міжнародны ды дапусціць на яго аўтамабілі грузам да 3,5 тоны. Беластоцкі ваявода ў красавіку 1995 г. звярнуўся ў гэтай справе да галоўнага камендантa пагранічнай аховы. У снежні 1996 г. дайшло да сустрэчы з прадстаўнікамі дзяржаўнага камітэта мытнікаў Рэспублікі Беларусь — прадстаўніцтва ўзначальваў Пётр Крэчка. Трэба тут адзначыць, што беларускі бок ніколі не рабіў лішняга клопату. Праблемы з'явіліся з нашага боку — ушчыльненне ўсходняй мяжы і закон аб іншаземцах. Усё гэта не дазваляе чаромхаўскай грамадскасці з аптымізмам глядзець у будучыню. А вось некалькі лічбаў. У 1994 г. праз чыгуначны пераход у Чаромсе пракацілася 110 тыс. турыстаў, у 1995 — 94 тыс., 1996 г. — 92 тыс., 1997 г. — 56 тыс. А цяпер тыя ж даныя для перахода Полаўцы — Пяшчатка. У 1994 г. — 280 тыс. турыстаў (111 тыс. аўтамабіляў), 1995 г. — 503 тыс. (185 тыс.), 1996 г. — 620 тыс. (242 тыс.), 1997 — 640 тыс. (277 тыс.).

У лютым г.г. (пасля ўвядзення новага закона) з чыгуначнага перахода скарыстала 3500 турыстаў і 28 тыс. у Полаўцах. Трэба дадаць, што колькасць турыстаў павялічваецца. Спадзяюся, што калі рашэнні канчатковa ўладкуюцца на карысць Чаромхі, вернуцца сюды ранейшыя тысячы падарожнікаў. На павелічэнне руху ў Чаромсе ўплывае таксама ліквідацыя непасрэднага цягніка Беласток — Брэст.

Падвёўшы сказанае тут, хочацца паверыць, што чыноўнікі на дзяржаўных пасадах пастараюцца дапамагчы сваім грамадзянам спакойна жыць і працаваць. Чарамшукі ў гэта вераць. Але, ці не будзе гэта чарговая страчаная надзея? Час пакажа.

**Уладзімір Сідарук**

# Дубіцкі бюджэт

Асноўным пунктам павесткі дня XXIX сесіі Рады гміны ў Дубічах-Царкоўных было ўхваленне гміннага бюджэту на 1998 год. У пасяджэнні, якое вёў старшыня Рады Сяргей Нічыпарук, у ролі назіральнікаў удзельнічалі мясцовыя васьмікласнікі. На сесіі былі таксама прысутныя прадстаўнікі паліцыі, паколькі камендант пастарунка Яўген Хмара ў канцы лютага г.г. перайшоў на пенсію. У сувязі з тым радныя развіталіся з былым камендантам (былі кветкі і падарунак) і прывіталі новага — Яна Іванюка.

Сёлетні бюджэт Дубіцкай гміны запланаваны на 2 млн. 92 тыс. 901 зл. Найбольш грошай патрабуе асвета — больш за 1 млн. зл. (50,73%). Дзяржаўная адміністрацыя атрымае 401 тыс. зл., сацыяльная апека — амаль 153 тыс. зл., а камунальная гаспадарка — больш за 136 тыс. зл. Самай буйной інвестыцыяй у гміне будзе разбудова і мадэрнізацыя Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. На гэтую мэту Рада вырашыла ўзяць доўгатэрміновы банкаўскі крэдыт велічынёю 400 тыс. зл. (з планаваных 800 тыс. зл.). Ужо аб'яўлены публічныя таргі на вылучэнне выканаўцы разбудовы школы. Другой большай інвестыцыяй будзе пракладка водаправода з Грабаўца ў Елянку, на якую ўжо выдаткоўвалі 51 тысячу зл. Астатнія 33 тысячы паступяць ад сялян і ваяводскіх фондаў. З пачаткам турыстычнага сезона плануецца адкрыць новы дом адпачынку над вадасховішчам Бахматы.

Радныя многа месца адвялі дарогам, якія з-за няўстойлівых атмасферных варункаў хутка разбураюцца. Ставілася таксама справа магчымага пераняцця амбулаторыі ад ЗОЗ у Гайнаўцы. Сабраныя былі паінфармаваны аб магчымасці змены (а дакладней кажучы, вяртання да гістарычных) назваў вёсак Круглае (з Kragle на Kruhle) і Горны Груд (з Górny Gród на Hurny Hrud). Аднак жыхары гэтых вёсак не выявілі такога жадання, а і самі радныя не пацікавіліся справай.

Войт Анатоль Паўлоўскі звярнуў увагу на зацікаўленне выкупам 14 дзялянак у Войнаўцы па смешна нізкай цане — як вобразна сказаў ён — адной запалкі за квадратны метр зямлі. Продаж гэты быў спынены ў сувязі з планаванай будовай вадасховішча на рэчцы Палічнай каля гэтай вёскі. Зямля ля заліва будзе выключана з-пад землеробчага ўжыткавання і прызначана пад дачныя ўчасткі, а тады яе цана ўзрасце да 3 зл. за квадратны метр.

**Славамір Кулік**

# 80-я ўгодкі БНР у Гданьску

Традыцыйна, як штогод, Беларускае культурнае таварыства „Хатка" з Гданьска 27 сакавіка г.г. арганізавала ў клубе „Мэствін" пры вул. Страганярскай 21/22 урачыстасць з нагоды 80-й гадавіны абвяшчэння БНР.

У Свяце незалежнасці апрача старэйшага пакалення прыняла ўдзел перад усім моладзь з Трыгарада і Рэспублікі Беларусь, якая тут вучыцца і працуе. Зала ледзь магла памясціць усіх удзельнікаў.

Пра даўнейшае святкаванне ўгодкаў (для моладзі гэта ўжо гісторыя) расказаў Мацей Канапацкі, а Лена Глагоўская ў дакладзе „Традыцыя беларускай незалежнасці" наблізіла гістарычныя факты, якія гадамі скрываліся афіцыйнымі гісторыкамі БССР ды і цяпер у афіцыйнай палітыцы ўлад РБ ігнаруецца ўсё, што звязана з БНР.

Не забывае пра нас тут у Гданьску старшыня Рады згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, якая з нагоды 80-й гадавіны БНР прыслала суайчыннікам прывітанні. Хвілінай маўчання ўдзельнікі ўрачыстасці ўшанавалі памяць загінуўшых у змаганні за незалежнасць Беларусі.

Бурнымі апладысментамі публіка ўзнагародзіла кожную песню барда Віктара Шалкевіча, папулярнага не толькі на Беласточчыне.

Гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", адспяваны ўдзельнікамі ўрачыстасці, закончыў патрыятычную вечарыну.

**Міхась Куптэль**

# На прыкладзе Бельска

[1 ☞ працяг]

мае іх на ўласнасць.

Ёсць і іншыя справы, якія не можна змераць грашамі. Такія, як перапахванне закатаваных атрадам „Бурага" беларускіх сялян. Ці пры іншай уладзе знайшлі б яны месца вечнага спачыну на вайсковых могілках у Бельску?

Многа гэта ці мала? На гэтае пытанне кожны павінен адказаць сабе сам. Як і вызначыць, ці за такія карысці варта змагацца на самаўрадавых выбарах.

Можна спадзявацца, што сітуацыя Бельска моцна не зменіцца, калі ён стане паветам. Бурмістр Андрэй Сцепанюк мае надзею, што тады будзе крыху лягчэй атрымаць нейкія грошы з цэнтра. А як будзе ў іншых, меншых гмінах? Ці не згубяць яны часткі сваіх кампетэнцый на карысць паветаў?

Цяжка, пакуль, што-небудзь прагназаваць. Але можна паспрабаваць паставіць сабе пэўныя мэты: што для нас, беларусаў Беласточчыны, найважнейшае? Як нам ладзіць сваё жыццё ў гмінах і будучых паветах усходняй Беласточчыны? Можна нават крыху памарыць.

**Мікола Ваўранюк**

# Паміж Днём жанчын і Вялікаднем

Дзень жанчын — гэта ў Беларусі вялікае свята. Адзначаецца ён перш за ўсё на рабоце. Сёлета свята выпала ў суботу, але нікога гэта не збянтэжыла.

Мой сябра Валодзя пачаў святкаваць ужо ў аўторак, з урачыстай вячэры ў цешчы. Валодзя, чалавек свабоднай прафесіі і наогул працус адзін, дык на гэтым ён і спыніў святкаванне. Затое ўдосталь хапіла мне гэтага святкавання ўсюды, куды б я ні заглянуў.

Сустрэты на вуліцы ў чацвер гісторык паведаміў мне мімаходзь, што ідзе з архіва, дзе павіншаваў працоўны калектыў з Днём жанчын, але збіраецца яшчэ туды зайсці. Тады я ўспомніў, што мушу ў гэтым жа архіве паглядзець нейкія матэрыялы, дык можа мне туды пайсці. У адказ я пачуў, што пайсці магу, але ў архіве пачалі ўжо адзначаць Дзень жанчын, дык павінен сам разумець...

Зайшоў я па справах у пэўную сярэднюю школу. Нейк „пры нагодзе" Свята жанчын выступіў там з канцэртам вядомы рок-гурт. Што выступаў ён для жанчын, відаць было па публіцы. Паненкі скакалі так, што школа толькі нейкім цудам не завалілася. Хлопцы дастойна сядзелі на крэслах. Пасля канцэрта да ночы адзначаў свята працоўны калектыў. Яшчэ на другі дзень дырэктар усё мусеў віншаваць нястомных жанчын.

Знаёмы каталік расказаў мне, што нават ксёндз у іхнім касцёле заявіў публічна аб сваёй разгубленасці адносна гэтага камуністычнага свята і здаўся, віншуючы парафіянак з Днём жанчын.

Я Дня жанчын не святкую ўжо нейкіх дваццаць гадоў. Дый нават не таму, што яно быццам бы камуністычнае, толькі таму, што, на мой погляд, Дзень жанчын павінен быць штодзень.

А вось Вялікдзень святкую заўсёды. Даводзіцца прытым святкаваць двойчы, паводле старога і новага стыляў, бо ў нашай праваслаўнай сям'і адна бабуля была каталічкай, а другая — баптысткай. Сітуацыя, дарэчы, звычайная сярод беларусаў. З такога прынцыпу зыходзілі беларускія заканадаўцы прызначаючы ў незалежнай Беларусі Вялікдзень паводле абодвух стыляў — як дзяржаўнае свята.

Грамадства ў Беларусі страшэнна атэізаванае. Усё-такі большасць жыхароў краіны заяўляе аб прыналежнасці да нейкага хрысціянскага веравызнання. Самых праваслаўных блізка палову.

А што зрабіў праваслаўны атэіст Аляксандр Лукашэнка? Прэзідэнцкім указам скасаваў Вялікдзень паводле абодвух стыляў, ды яшчэ восеньскія Дзяды! Прытым у каталіцкую Вялікую суботу вызначыў агульнарэспубліканскі „суботнік". Малодшым чытачам паясняю, што „суботнік" — гэта „грамадская" праца ў вольную суботу, ад якой нельга ўхіліцца. Адзначым таксама, што Велікодная нядзеля таксама страціла статус дзяржаўнага свята. Яна толькі звычайны дзень свабодны ад працы, а гэта не тое самае. Параўнайма Велікодную нядзелю ў Польшчы з якой-небудзь іншай нядзеляй.

Нейк не чутна было прытым пратэстаў з боку хрысціянскіх цэркваў. Прыцярпеліся. Пратэстуюць толькі, як заўсёды, беларускія дэмакраты.

Звяртаюць яны ўвагу на тое, што апрача прыціскання хрысціянства, прэзідэнцкі ўказ вядзе да распальвання варажнечы між паасобнымі веравызнаннямі. На мой погляд — няслушна. Таварыш прэзідэнт пазбавіў дзяржаўнага статусу самае вялікае хрысціянскае Свята паводле абодвух стыляў.

Калі пішу гэтыя словы, ёсць яшчэ магчымасць, што Прэзідэнт адменіць указ адносна праваслаўнага Вялікадня, апраўдваючы тым дакоры апазіцыі. Усё-такі, думаю, што ніякай адмены не будзе. Ад праваслаўнага атэіста застаўся толькі атэіст.

Некалькі дзён пасля абвяшчэння прэзідэнцкага ўказа па тэлебачанні („беларускім") паказвалася ўрачыстае прысваенне афіцэрскага звання выпускнікам нейкай школы КГБ. Маладыя чэкісты кляліся на вернасць ідэалам свайго першастваральніка, Вялікага Фелікса (дарэчы, католіка, якога да змагання з царызмам падштурхнуў праслед уніі). Урачыстасць праходзіла на беларускай бацькаўшчыне чырвонага ката, у Дзяржынску. Жудаснае гэтае відовішча не пакідае сумнення — Аляксандр Лукашэнка не звычайны атэіст. Ён — бальшавік.

**Алег Латышонак**

# Прызабытыя святы

Пачатак траўня заўсёды адзначаўся ўзвышаным святочным настроем. Так яно ёсць і цяпер, памяняліся толькі дні, ідэі і апосталы, якім арганізуецца літургічны цырыманіял. Раней, у Польшчы, як і ў іншых краінах сацыялістычнага лагера, найбольш рыхталіся да першатравеньскага святкавання. Невядома чаму камуністы прысвоілі гэты дзень для свае традыцыі. У сацыялістычных краінах, побач 7 лістапада, гадавіны бальшавіцкага перавароту 1917 года, 1 траўня стаў найважнейшым днём у іх літургічным календары. Рыхтаваліся яны да яго вельмі старанна. У пяці- ці шасцідзесятых гадах партыйны апарат сачыў за тым, каб ніхто з грамадзян не астаўся абыякавым да гэтага свята. Таму нават у далёкія вёскі прыязджалі грузавікі і забіралі жыхароў на першатравеньскія шэсці і мітынгі. Загадзя камсамольскі актыў рыхтаваў выявы Маркса, Леніна, Сталіна, Берута, а пасля Хрушчова, Гамулкі, Брэжнева, Герка, выдатных савецкіх чэкістаў і правадыроў сусветнага камуністычнага руху, якіх пасля ўдзельнікі шэсцяў неслі перад трыбунамі, запоўненымі лакальнымі чырвонымі епіскапамі. Найгорш меліся тыя, якім даручылі тады несці менавіта выяву нейкага барадатага ці ўпрыгожанага медалямі асобеня. У той дзень заўсёды пад дастаткам было дэфіцытнага піва, шмат чаго цікавага адбывалася навокал. Дэманстранты, якія мелі свабодныя рукі стараліся не праваронiць ніводнае хвіліны святочнага дня. З партрэтам Дзяржынскага, аднак, ніякавата было стаяць у чарзе за півам. Рабочы люд, а асабліва яго авангард з усялякіх камітэтаў, перажываў таго дня нейкі стан экстазу.

У сямідзесятыя гады ў гарадах было ўжо столькі паклоннікаў першатравеньскіх шэсцяў, што сялян можна было пакінуць у полі садзіць бульбу. А якія тады былі шэсці! *Łza się w oku kręci.* Люд іншоў чысценька апрануты, дамінавала школьная моладзь, студэнты. Дзяўчаты ў белых блузках, кароткіх гранатавых спадніцах. Усе з усмешкай на губах і рукамі ў прывітальным жэсце. Гэтак званы пралетарыят прэзэнтаваўся амаль выключна ў выглядзе дырэктараў фабрык, кіраўнікоў, інжынераў, майстраў і іх сем'яў. Выглядалі яны вельмі дастойна і аптымістычна. Агульная крывадушнасць, здаецца, адабралася натоўпам. Нішто не паказвала на тое, што нехта можа хацець памяняць гэту сістэму, якая стварыла агульнае шчасце і дабрабыт на тую, якую дзесяткамі гадоў крытыкавалі людзі на трыбунах.

Для вучняў сярэдніх школ удзел у шэсці быў абавязкам. Настаўнікі правяралі прысутнасць перад выхадам калоны са школы і пасля вяртання. Перад трыбунай, аднак, ішлі толькі першакласнікі і тыя, якім даручылі несці партрэт нейкага ідала ці транспарант з вельмі слушным лозунгам. Непрысутным і неадпаведна апранутым паніжалі адзнаку па паводзінах. Таго дня ў Беластоку было вельмі весела. У інтэрнатах, асабліва ў студэнцкіх, моладзь святкавала да раніцы. Трацілі толькі тыя, што на заклік бацькоў ехалі садзіць бульбу.

Першатравеньскае святкаванне найбольш урачыста адзначалі ў гарадах Савецкага Саюза. Калі сёння тэлебачанне паказвае дэманструючых каля помніка Леніну ў Маскве, Мінску ці Кіеве бяззубых ужо ветэранаў „социалистического труда", тады найлепш відаць упадак традыцыі. Камсамольцы хуценька пераўтварыліся ў капіталістаў і паводзяць сябе так, быццам бы ніколі не чулі пра першатравеньскія святкаванні. Толькі адзін з іх, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, праяўляе вернасць традыцыі сусветнага пралетарыяту і стараецца заахвоціць моладзь выйсці на вуліцы з чырвонымі сцяжкамі і партрэтамі Леніна, Сталіна, Зюганава і сваім уласным, Лукашэнкавым.

У Польшчы ў апошніх гадах 1 траўня выходзілі заявіць пра сваю прысутнасць найчасцей толькі анархісты і іх лысыя антаганісты з усялякіх фашыстоўскіх груповак. Цяпер два дні пазней адпраўляецца тут новая палітычная літургія з удзелам прэзідэнта, прымаса, прэм'ер-міністра, генералаў, капеланаў. На шчасце, прысутнасць звычайных грамадзян неабавязковая.

Раней ва ўсіх сацыялістычных краінах, у тым ліку і ў Польшчы, 9 траўня адзначаўся яшчэ Дзень перамогі. У той дзень 1945 года немцы падпісалі з саветамі акт капітуляцыі. Дзень раней нямецкі штаб здаўся амерыканцам. Палякі цяпер, хаця не святкуюць Дня перамогі над фашызмам, але яго адзначаюць, зразумела, паводле амерыканскага календара — 8 траўня.

Дзень перамогі з'яўляецца дзяржаўным святам у Беларусі. У мінулым годзе Рыгоравіч сарганізаваў нават вайсковы парад для ўшанавання гэтай падзеі. Тэлебачанне паказвала шчаслівых ветэранаў, удзячную за вызваленне *родины* моладзь. Не было толькі ніякай рэфлексіі над прычынай ваеннага кашмару, які пракаціўся над пацярпелай раней ад сталінскага дзікунства Беларуссю. Дарэчы, палякам таксама здаецца, што 3 траўня адзначаюць якісьці дзень перамогі.

**Яўген Мірановіч**

# Спявачкі з ліцэя



У Гайнаўскім беларускім ліцэі вакальна-інструментальны калектыў „Знічка" вядзе маладая настаўніца Бажэна Леўчук. Пару гадоў таму назад яна закончыла эстраднае аддзяленне Беларускага універсітэта культуры ў Менску і адразу пачала працаваць у ліцэі.

У абавязкі гэтай настаўніцы музычнага выхавання ўваходзяць не толькі заняткі з калектывам, але і навучанне дзяцей ігры на фартэпіяна. Яе праца ўжо дала вынікі. У калектыў горнуцца вучні з добрым слыхам і голасам.

У мінулым годзе калектыў з Гайнаўскага беларускага ліцэя выступіў на Фестывалі нацыянальных меншасцей у Гданьску, спявалі таксама ў Пуньску на падобнай сустрэчы. А што ўжо гаварыць пра выступленні ў школе! Колькі іх было! Калі ў ліцэі быў арганізаваны агляд калядных калектываў, дык і там іх не забракла.

Настаўніца гаворыць мне, што не ўсё ў іх ідзе надта гладка, што ёсць і шмат цяжкасцей. Па-першае, моладзь у ліцэі мае шмат урокаў, і час на ўдзел у пазаўрочных занятках у вучняў вельмі абмежаваны.

Апрача таго, не хапае музычнага абсталявання. Замала мікрафонаў, гукаўзмацняльнікі не вельмі добрыя, старыя.

Праўда, у мінулым годзе атрымалі грошы ад Міністэрства адукацыі, за якія закупілі „міксер", вельмі добры, як сцвярджае Бажэна Леўчук. Ну, ёсць піяніна, іх нават некалькі.

Пытаюся ў настаўніцы, ці задаволена яна членамі калектыву. Але можна спяваць яшчэ лепш, канстатуе яна. Я перакананa, што з кожным выступленнем у іх будзе больш вопыту і смеласці.

Што дзяўчаткі спяваюць усё больш упэўнена, сведчыць і тое, што выступілі яны сёлета на Фестывалі беларускай песні у Беластоку і атрымалі кубак ад патрона Фестывалю, пасла Беластоцкай зямлі Владзімежа Цімашэвіча.

Выступалі таксама салісткі Іаанна Масайла і Ілона Карпюк, а таксама дуэт Іаанна Масайла — Эля Акочук.

Ілона Карпюк, якую вы бачыце на здымку, заспявала вельмі лірычным, цікавым голасам песню „Бацькоўскі край". Яна вучыцца яшчэ толькі ў першым класе ліцэя і на Фестывалі беларускай песні выступіла ўпершыню.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Малады мастак з Дубін

**— Напэўна хлопец здольны, што адразу відаць, — гаворыць гайнаўскі жывапісец Віктар Кабац пра Паўла Верамюка. — Сярод яго карцін найлепшыя партрэты.**



У Гайнаўскім доме культуры можна паглядзець выстаўку маладога мастака з Дубін Паўла Верамюка, які зараз вучыцца ў трэцім класе Дзяржаўнага ліцэя выяўленчых мастацтваў у Супраслі. У выставачнай зале ГДК знаходзіцца больш за трыццаць карцін, з чаго два алейныя палотны, якія выяўляюць Супрасльскі манастыр і царкву. Сярод іншых прац выкананых тэхнікай тэмперы можна ўбачыць аўтапартрэт, партрэты бабулі, брата, розныя прыпушчанскія пейзажы і нацюрморт.

— Цікавіцца маляваннем стаў я ўжо ў пачатку падставовай школы, але больш сур'ёзна заняўся ў сёмым класе, — гаворыць Павел Верамюк. — Тады пачаў хадзіць на заняткі мастацкага гуртка ў ГДК, які вяла спадарыня Зінаіда Якуць. Менавіта там я вырашыў, што паспрабую паступіць у супрасльскі ліцэй.

На Агульнапольскім аглядзе творчасці мастацкіх школ, які адбыўся ў 1997 годзе ў Кашаліне, Павел Верамюк за аўтапартрэт атрымаў гран пры агляду — „Калясніцу Апалона". У сувязі з поспехамі ў мастацкай працы ездзіў у час апошніх летніх канікулаў на выстаўку, арганізаваную яго ліцэем у Раперсвілі, што ў Швейцарыі. Там працаваў пры мантажы выстаўкі творчасці вучняў супрасльскага ліцэя і адпачываў у сям'і сваіх равеснікаў. У 1996 годзе на Аглядзе безыменнай творчасці Падляшша ў Міхалове за разьбу ў дрэве атрымаў II месца, але зараз галоўным чынам займаецца жывапісам.

— Крыху цікаўлюся і скульптурай, і фатаграфіяй, але гэта не тое, што маляванне. На фатаграфіі не выявіш усяго таго, што на карціне, — кажа Павел. — Для мяне вельмі важныя колеры, святло, кантрасты, цені. Гэта ўсё можна выявіць пры дапамозе фарбаў. Зараз пачынаю маляваць алейнымі, бо можна атрымаць лепшы колер і святло, але абмяжоўваюць высокія кошты. Раблю таксама спробы і ў пастэлі, але найбольш працую ў тэмперы. Што тычыцца тэмаў маіх прац, дык найахвотней малюю партрэты і нацюрморт. Цяжка знайсці ахвотных натуршчыкаў і партрэты пачаў я рабіць ад сваёй сям'і. Апошнім часам пачалі захапляць мяне краявіды і я стаў маляваць прыпушчанскія пейзажы. Вельмі люблю Белавежскую пушчу, але лічу, што ў мяне яшчэ малы вопыт, каб яе паказаць. Пушча вельмі жывая і цяжка выявіць гэта ў сапраўдным святле. Думаю, што яшчэ да яе вярнуся. Пра будучыню яшчэ не вырашыў, але трэба ўжо думаць.

**(лм)**

# Змаганні алімпійцаў у Гародні

Ад 23 да 27 сакавіка трох ліцэістаў з Гайнаўскага белліцэя — Іаанна Масайла, Аня Васілюк і Ігар Іванюк разам з настаўніцай беларускай мовы Вольгай Сянкевіч і вучнем Бельскага белліцэя Тамашом Сахарчуком пабывалі на Рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове, што адбывалася ў Гародні. Алімпіяду для вучняў агульнаадукацыйных школ Беларусі, як і штогод, арганізавала Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Пасля двухгадовай непрысутнасці, шосты раз прыехалі змагацца на Беларусь ліцэісты з Беласточчыны.

Ужо ў панядзелак, адразу пасля прыезду, госці з Гайнаўкі і Бельска трапілі на адкрыццё алімпіяд па беларускай і рускай мовах, у час якіх было многа прамоваў, дэкламацыяў вершаў, спеваў і тэатральных выступленняў. У ліцэістаў засталіся розныя ўражанні.

— Калі я слухала, як вучні дэкламуюць вершы пра родную мову, спяваюць прыгожыя беларускія песні, дык я сапраўды была захоплена, — заяўляе Ася Масайла. — Таксама вельмі падабаліся акрабатычныя выступленні маленькіх дзетак.

— Пасля адкрыцця алімпіяды я дайшоў да вываду, што Савецкі Саюз яшчэ не скончыўся, — кажа Ігар Іванюк. — Вельмі многа гаварылі там пра родную беларускую мову, а яе значэнне штогод паніжаецца. Удзельнікі Алімпіяды па рускай мове сваёй роднай называлі рускую.

Пасля афіцыйнага прывітання арганізатары запрасілі ўсіх удзельнікаў на экскурсію па Гародні. Вучні наведалі Каложскую царкву, Гістарычны музей, убачылі Нёман і старую частку горада. Раніцай у аўторак усе пісалі дыктоўку і водгук на верш. Як гаварылі гайнаўскія ліцэісты, дыктоўка не была складанай, але паяўляліся сумненні звязаныя з інтэрпункцыяй (коскі, працяжнікі, шматкроп'і, клічнікі). Калі закончыліся змаганні паводле граматычных правілаў, у сваіх водгуках вучні раскрывалі меркаванні наконт сэнсу жыцця, ролі паэта і паэзіі, адклікаліся да маралі.

— Журы здзіўлялася, што мы не карысталіся чарнавікамі, бо на ацэнку працы мелі ўплыў не толькі памылкі, але і іх выпраўленні, — кажа Ася. — Думаю, што на Беларусі іншы спосаб навучання. Менш увагі адводзіцца самастойнасці вучняў.

Пасля абеду ліцэісты трапілі ў тэатр на пастаноўку казкі Андэрсена „Брыдкае качанятка", а ў сераду чатыры гадзіны змагаліся на лінгвістычным конкурсе — выконвалі практыкаванні па фанетыцы, марфалогіі, лексікалогіі, фразеалогіі ці словаўтварэнні. Трэба было таксама зрабіць пераклад з рускай на беларускую мову і тут гайнаўскія ліцэісты мелі цяжкасці, бо рускай мове ў школе не вучацца.

— Пасля кароткага адпачынку пайшлі мы пагуляць і трапілі на дэманстрацыю з нагоды 25 Сакавіка. Ішло чалавек пад трыццаць, якія неслі бел-чырвона-белыя сцягі, а побач іх ішло намнога больш міліцыі. Халады не дазвалялі на канцэрт на Савецкай плошчы. Не памяняліся яшчэ і названні вуліц, надалей засталася вуліца Леніна, — расказвае Ігар.

У чацвер былі вусныя адказы, калі камісія звяртала ўвагу на красамоўства ўдзельнікаў (найчасцей траплялiся вольныя тэмы). Тут адказы ліцэістаў з Беласточчыны ацэньваліся высока. Іаанна Масайла атрымала вылучэнне за самы лепшы вусны адказ, а расказвала яна пра сваю матчыну мову.

— Хаця сябры з Беларусі ў выдатнай большасці размаўлялі між сабой на рускай мове, у час вусных адказаў часта пераконвалі камісію аб сваёй любові да беларускай, — звяртае ўвагу Ася.

— Калі мы пыталі пра палітычную абстаноўку ў Беларусі, многія не хацелі выказвацца. Гаварылі, што хочуць яшчэ паступіць у вышэйшыя ўстановы і такія выказванні могуць ім пашкодзіць. Адзін сябра пытаўся рытарычна, ці ведаем што такое КДБ. Некаторыя рашуча заяўлялі, што Лукашэнку лічаць вельмі добрым чалавекам. Найбольш свядомымі ў нацыянальных справах былі вучні з Менска і Магілёва, — успамінае Ігар. — Што тычыцца жыллёвых умоў, дык былі яны надзвычай добрымі. Да харчавання таксама хутка мы прывыклі, а здзіўляла нас пунктуальнасць на кожным кроку.

— Найбольш задаволены мы з непасрэднага кантакту з моладдзю з Беларусі, — цэніцца Ася. — Разам мы гулялі па горадзе, пасябравалі і памяняліся адрасамі.

Пасля ўрачыстага закрыцця алімпіяды ў пятніцу, калі адбылося абвяшчэнне рэзультатаў змаганняў, ліцэісты вярнуліся ў Гайнаўку і Бельск.

**Аляксей Мароз**

# Дзявятыя „Карункі"

У Бельску-Белай падсумавалі цэнтральны этап IX конкурсу „Карункі", інспіраваны народным мастацтвам. Карыстаўся ён вялікім зацікаўленнем дзяцей і моладзі Беластоцкага ваяводства. Конкурс адбываецца кожныя два гады.

На конкурс вучні даслалі ручную вышыўку, выцінанкі, малюнкі на шкле і керамічныя вырабы. Вылучэнні атрымалі між іншым дзеці з пачатковых школ у Нараўцы і ў Нурцы-Станцыі, а таксама з Нарваўскага асяродка культуры. **(гай)**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Вылучаюцца мастацкімі здольнасцямі

*Шасцікласнікі са сваёй настаўніцай беларускай мовы Міраславай Маркевіч.*

Пасля трохгадовага перапынку „Зорка" наведала вучняў VI „е" класа, што ў бельскай „тройцы". Мае добрыя сябры ніколі не парвалі сувязі з нашай газетай. Наадварот, яны не толькі пастаянныя чытачы, але і энтузіясты ўсялякіх конкурсаў.

— Хто з вас атрымаў узнагароду за правільнае рашэнне крыжаванкі? — папыталася настаўніца беларускай мовы **Міраслава Маркевіч**.

І вось, бачым, што амаль усе шасцікласнікі прымалі ўдзел у нашых конкурсах. Сярод іх былі шчаслiўцы-лаўрэаты: Пятрусь Янкоўскі, Грышка Мартынюк, Марта Пухальская, Паўліна Попік, Анэта Леанкевіч, Юліта Іванюк, Паўліна Бэдэнічук, Марта Вяршко, Тамаш Галёнка, Лукаш Ільяшук, Міхась Іванюк, Мар'юш Сацевіч, Івона Леанюк і Аня Крукоўская. Многія вучні гэтага класа ўдзельнічалі ў Сустрэчах „Зоркі". Гэта яны так прыгожа размалявалі супольны з VII „е" каляровы крыж Яраславу Кастыцэвічу.

У класе многа энтузіястаў дэкламатарскіх конкурсаў.

**Аня Крукоўская** дайшла аж да цэнтральнага этапу. Добрым прыкладам для яе ёсць брат Адрыян, які таксама ўдзельнічаў у гэтым мерапрыемстве.

— Рыхтаваў мяне тата, — прызнаецца Аня. — Але найбольш хіба хвалявалася за наш поспех мама, — дадае сімпатычная дзяўчынка.

Апрача Ані ў дэкламатарскім конкурсе ўдзельнічалі (улічваючы і мінулагоднія конкурсы): Тамаш Галёнка, Моніка Чыжэўская, Паўліна Попік, Анэта Леанкевіч, Паўліна Бэдэнічук, Міхась Іванюк, Івона Леанюк, Лукаш Ільяшук, Марта Вяршко, Моніка Прафірук і Марта Пухальская.

— З нагоды надыходзячых свят многа гаворым пра традыцыі продкаў, — кажа М. Маркевіч. Большасць шостакласнікаў святкуе ў вёсках сваіх бабуль і дзядуляў. Там маюць непаўторную аказію прыглядзецца народнаму святкаванню, напрыклад, Вялікадня.

У VI „е" класе 24 вучні. Выхавацелем класа з'яўляецца **Андрэй Вышкоўскі**. На фоне школы VI „е" вылучаецца мастацкімі здольнасцямі.

— З гэтымі дзецьмі можна правесці нетыповыя заняткі, напрыклад, маляваць каляж, — кажа **Алег Кабзар**, настаўнік пластыкі. — Большасць мае арыгінальны падыход да творчасці — у іх проста дрэмле моц, якая ў адпаведную хвіліну будзіцца і робіць вялікую працу.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*

*На ўроку беларускай мовы. У першай парце Анэта Леанкевіч і Паўліна Попік.*

## Вершы Віктара Шведа

### Вінаваты цыбаты

— Чаго ты гняздо мяняеш? —
Бусла спытаў бусел.
Той на гэта: — Бяду маю,
Ратаваць мушу:

Гаспадар мой поўну хату
Мае малых дзетак,
І мяне, вось, вінаватым
Ён зрабіў за гэта!

### Сабака замест брата

Сцвердзіў на занятках
Уцешаны Якаў:
— Вось каханы татка
Купіў нам сабаку!

— Як табе ўдалося
Так намовіць тату?..
— Прасіў з сястрой Зосяй,
Каб купіў нам брата!

# Мужык і баба

Жыў адзін мужык. Пайшоў ён раз на базар, купіў курэй і, каб ім не было сумна, купіў яшчэ лісічку. Пасадзіў усіх курэй у куратніку. Ноччу лісіца пасла курэй. Сумна мужыку стала, пайшоў ён шукаць пары для лісічкі. Прывёў ён ваўка. Воўк лісіцу з'еў. Заплакаў мужык: „Ах, бяда такая, здохне воўк адзін, каго б яму прывесці для пацехі"? Прывёў мядзведзя. Мядзведзь забіў ваўка. „Што мне рабіць? Каго мядзведзю прывесці ў падарунку?" Прывёў мужык бабу. Злосная баба на мядзведзя стала, стукнула апалонікам у лоб і забіла мядзведзя. Што тут цяпер зрабіць? Думаў мужык, каго бабе прывесці. Думаў, думаў, нікога не знайшоў. Прыйшлося мужыку з бабаю жыць.

**Аліна Сіроцкая,**
**VII кл. ПШ у Чыжах**

# Гульня „прарок"

Аднойчы на ўроку беларускай мовы мы гулялі ў такую гульню. На пачатку выбралі мы „прарока", перавязалі яму вочы і пасадзілі на крэсла. Пасля ўсе, пабраўшыся за рукі, пачалі хадзіць кругом „прарока". Па чарзе ўсе клалі руку на яго галаву — дзяўчаты казалі „Ева", а хлопцы — „Адам". Тады „прарок" расказваў, што чакае іх у жыцці — кожнаму прадказваў будучыню. Аднаму казаў, што будзе шчаслівым, але бедным, а другому, што хаця ён багаты, то ўсё жыццё будзе плакаць... Пасля выбіралі мы другога „прарока" і пачыналі гульню ад пачатку.

Гульня ў „прарока" вельмі цікавая і смешная. Калі „прарок" умее добра жартаваць, то бывае многа смеху і весялосці.

**Уршуля Ляўчук,**
**Паўліна Савіцкая,**
**Уршуля Гегель. кл. IV „б"**
**у Гарадку**

# *Рогі*

Смешны козлік,
Пасярод дарогі —
Козлік бег
бязрогі...
А сустрэў карову,
Закрычаў сурова:
— Уцякай з дарогі,
Падыму на рогі!

**Дарота Юшчук, в. Хітра**

# *Пішуць школьнікі*

**Дарагая „Зорка"!**

Прапануем вам загадкі з роднай хаткі.

1. Рассцілалі, збіралі, тапталі, круцілі, ткалі і на стол заслалі.
2. Па лузе ходзіць, на сабе кажух носіць.
3. Пакуль бацька народзіцца, сын ужо находзіцца.
4. Пяць валоў адну саху цягнуць.
5. Шапкі пазбыўся і на зямлю зваліўся.
6. Аснова саснова, а шкляны ток.
7. Тонка расце, слаба вісіць, сам касматы, а канец лысы.
8. Хаця не рыба, а плавае, хаця не конь, а з хвастом.
9. На чым знаку не паставіш?

**Аліна Сіроцкая,**
**Паўліна Кандрусік**

*Абрус, авечка, агонь і дым, алоўак у руцэ, арэх, акно, арэх, бабёр, вада.*

# Клікалі вясну ў Орлі



*Вясна, вясна красна, прыйдзі, вясна!*
*З радасцю, з дажджамі цёплымі,*
*З хлебамі багатымі.*
*Сонейка, сонейка —*
*Выглянi ў акенца,*
*Чакаюць цябе дзеткі,*
*Дзеткі малалеткі.*
*Вясна, вясна красна —*
*Прыйдзі да нас хутчэй,*
*Сонейкам усіх абагрэй.*

Такімі словамі заклікалі вясну другакласнікі з Орлі. „Гуканне вясны” наладзілі яны на ўроку беларускай мовы 25 сакавіка — якраз у Дзень незалежнасці Беларусі. Да гэтага свята доўга і старанна яны рыхтаваліся. Разам са сваёй настаўніцай Яўгеніяй Тхарэўскай і бацькамі выканалі ўборы — сімвалы вясны — пчолку, жаваранка, бусла, зязюлю, дождж, сонца, мурашку, вецер, бярозку, жабу і вясну. Дзеці пазнаёміліся са звычаямі сустракання вясны на Беларусі ў мінулым. Неадлучным матывам клікання вясны былі „вяснянкі” — песні, якімі сустракалі вясну. Спявалі іх на ўзгорку або над бурлівай веснавой рэчкай. Вясну называлі ласкава чараўніцай, красуняй, сонейкам.

З гэтай нагоды мамы і бабулі выпякалі смачныя булачкі накшталт птушак.

Вясну ў Орлі іграла Эва Анапюк. Дзеці добра гулялі, разгадваючы веснавыя загадкі. Наканец праспявалі яны вяснянку „Вятры” і сфатаграфаваліся для „Зоркі”.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Нацыянальная свядомасць беларусаў

31 сакавіка ў бельскай „тройцы” адбылася незвычайная сустрэча. Яе тэмай было абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў на пачатку XX стагоддзя. Мы запрасілі гісторыка Алега Латышонка. На пачатку наш госць запрапанаваў нам фільм, які зрабіў разам са спадаром Міколам Ваўранюком. У гэтым фільме была паказана дарога беларусаў да незалежнасці.

Першыя спробы абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў зрабіў, у час Студзеньскага паўстання, Кастусь Каліноўскі. Ён выдаваў нелегальную газету „Мужыцкая праўда”. У гэтыя часы беларусы былі перш за ўсё сялянамі. Таму якраз Кастусь Каліноўскі сваю газету кіраваў да іх. Мэтай яго дзейнасці меў быць удзел сялян у Студзеньскім паўстанні. Як ведаем, Каліноўскаму гэта не ўдалося.

На пачатку XX стагоддзя галоўным асяродкам беларускасці была Вільня (у Менску беларусы паводле колькасці былі чацвёртым народам). Тады, а дакладна ў 1906 годзе, пачалі друкаваць „Нашу ніву” — газету, якая адыграла вялікую ролю ў будаванні нацыянальнай свядомасці беларусаў. У „Нашай ніве” свае першыя творы надрукавалі класікі беларускай літаратуры: Якуб Колас, Янка Купала і Максім Багдановіч.

Пазней пачалася першая сусветная вайна. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ўсе залежныя ад Расіі народы шукалі спосабу ўтварэння ўласнай дзяржавы. Так было і з беларусамі. Пачалі яны арганізаваць з’езды, мэтай якіх было ўтварэнне беларускай дзяржавы. На пачатку бальшавікі дазволілі іх арганізаваць, але пазней гэта забаранілі. У 1918 годзе Беларусь занялі немцы, якія дазволілі на патрыятычныя з’езды. 25 сакавіка беларусы аб’явілі незалежнасць. Сваю дзяржаву назвалі Беларускай Народнай Рэспублікай (БНР). Аднак беларускую дзяржаву зноў занялі бальшавікі і далучылі яе да савецкай.

Пасля фільма спадар Алег расказаў нам аб міжваенным перыядзе. У II Рэчы Паспалітай беларусаў лічылі камуністамі. Спадар Латышонак сказаў, што быў нават такі анекдот:

— Ты беларус?

— Не, мой брат камуніст!

Пасля вельмі цікавага расказу нашага госця, я задумаўся. Якая ёсць нацыянальная свядомасць беларусаў Беласточчыны? Думаю, што розная. Некаторыя забылі аб сваім паходжанні, але ёсць і патрыёты. Прыкладам могуць быць многія школы, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы. Іншым прыкладам можа быць „Ніва” — вельмі цікавая беларуская газета.

Такія сустрэчы вельмі карысныя: дзякуючы ім моладзь пазнае сваю гісторыю, а праз гэта становіцца нацыянальна свядомай.

**Міхась Сцепанюк, VII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Пропуск у кожную школу

Вядомыя ўжо прозвішчы лаўрэатаў сёлетняга **прадметнага конкурсу беларускай мовы**. Прыняло ў ім удзел дзесяць асоб з Бельска-Падляшскага, Нарвы, Хрconsiderable Хрaбалоў, Кленік і Малінnік.

Сярод пераможцаў апынуліся:

I месца:

**Івона Іаанна Асташэўская**, VIII кл. ПШ у Нарве (рыхтавала настаўніца Ніна Абрамюк)

II месца:

**Анна Аўсянюк**, VII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім (рыхтавала наст. Валянціна Бабулевіч)

**Ірыней Абрамюк**, VII кл. ПШ у Нарве (рыхтавала наст. Ніна Абрамюк)

III месца:

**Міхась Сцепанюк**, VII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім (рыхтавала наст. Валянціна Бабулевіч)

**МіхасьТаранта**, VIII кл. ПШ у Бельску-Падляшскім (рыхтаваў наст. Яраслаў Падолец)

IV месца:

**Анэта Пашкоўская**, VIII кл. ПШ у Кленіках (рыхтавала наст. Вера Флярчук)

**Івона Краскоўская**, VIII кл. ПШ у Храбалах (рыхтавала наст. Ірэна Яхімюк)

V месца:

**Марыя Бэнэдзюк**, VIII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім (рыхтавала наст. Валянціна Бабулевіч).

Названыя лаўрэаты могуць паступіць у кожную сярэднюю школу ў Польшчы без экзаменаў. Але каб здзейсніць такі намер, трэба яшчэ мець прынамсі чацвёркі па матэматыцы і польскай мове.

— Усе ўдзельнікі былі добра падрыхтаваны, — сказала старшыня камісіі **Міраслава Маркевіч**.

На думку маёй субяседніцы цудоўна атрымаліся расказы пра ўяўленне малонка. Найбольш складанымі былі, традыцыйна, задачы па граматыцы.

**Ганна Кандрацюк**

# Літаратурнае аб’яднанне „Маладняк”

Узнікла яно як гурток маладых паэтаў у 1923 годзе. Заснавальнікамі „Маладняка” былі Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Андрэй Александровіч, Адам Бабарэка, Язэп Пушча. У 1924 годзе ўзніклі філіяльныя аддзелы згуртавання маладых беларускіх паэтаў у Маскве, Віцебску і Магілёве, а ў наступных гадах у Бабруйску, Оршы, Барысаве, Гомелі, Полацку, Слуцку, Смаленску, Ленінградзе.

У 1924 годзе члены „Маладняка” далі яму назву Усебеларускае аб’яднанне паэтаў і пісьменнікаў. Аддзелы „Маладняка” ўзніклі таксама за межамі Савецкага Саюза: у Рызе — сталіцы Латвіі і Празе — сталіцы Чэхаславакіі. У рамках аб’яднання былі створаны секцыі рускіх, польскіх, літоўскіх і яўрэйскіх пісьменнікаў.

У 1926 годзе з „Маладняка” адышла частка сяброў і заснавала новую беларускую літаратурную арганізацыю — „Узвышша”. У 1927 годзе пісьменніцкай арганізацыяй пачалі цікавіцца савецкія ўлады, якім перашкаджала пануючая там патрыятычная атмасфера. Бальшавікі імкнуліся выкарыстаць літаратараў для прапагандавання сваіх ідэй. На пачатку 1928 года рады „Маладняка” пакінулі Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Алесь Дудар, Васіль Сташэўскі. Неўзабаве ўсе яны былі арыштаваны за беларускі патрыятызм, а Усебеларускае аб’яднанне паэтаў і пісьменнікаў перайменавана бальшавікамі ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Talia | Woda | | Miara | Tara | Banan | | Ar |
| Oświata | | | | | | | Rekin | | |
| Dar | Karaluch<br>Zapach | | | | | | | | Aniol<br>Kat |
| Klamstwo | | | | | | | | | |
| | | | | Siostra baśniowego Jelonka | | | | | |
| Chrzan | | | | | Alt | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 13:**

Цікавы, тарас, карал, тарыф, тата, анёл, арабіна.

Катар, гітара, карыта, сарафан, вол, ён, рыс, зала.

Узнагароды — **фламастэры** — выйгралі: **Анджэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі, **Бажэна Ляўчук** са Старыны, **Аня Касцючук** з Кленік, **Дарота Барташэвіч** з Махнатага.

Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі” № 17
26.04.1998

# Стары Корнін і цудадзейная ікона

У пачатку гэтага года з'явілася надта цікавая „Кніга цудаў перад іконай Божай Маці ў Старым Корніне здзейсненых"*. Знойдзены ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Расіі ў Санкт-Пецярбургу матэрыял з вялікай стараннасцю і знаўствам падрыхтаваў да друку навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку праф. Антон Міpановіч, выдала Беларускае гістарычнае таварыства, а прыгожа надрукаваў „Orthdruk".

Аналізуючы мінулае Старакорнінскага прыхода трэба сказаць, што гісторыя не аказалася настолькі ласкавай, каб адназначна ўстанавіць пачаткі першай царквы і іконы, якую народ услаўляў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. З упэўненасцю можна сказаць, што заступніцтва Божай Маці ў складаных момантах гісторыі было неаспрэчнае. Гэтую існасць наближае нам „Кніга цудаў". Каб лепш зразумець адзначаныя здарэнні з гісторыі ваколіцы і яе жыхароў, варта пазнаёміцца з пачаткамі ўзнікнення царквы і прыхода.

Стары Корнін і суседнія вёскі Махнатае, Мора, Карыціск, Істок, Беразова (Старое) узніклі ў час правядзення валочнай памеры, перад 1570 годам. Заснавальнікам гэтых маёмасцей быў каралеўскі надворны Астафій Халецкі. Выцякае тады пытанне: калі магла ўзнікнуць першая царква ў Старым Корніне? Вядома, што ў Беразове (без прыметніка *Старое* існавала царква, аб чым сведчыць адзначаная ў архіве старакорнінскай царквы прывілея каралевы Канстанцыі і караля Аўгуста ад 1617 года (была яна яшчэ ў XIX ст.), якая давала беразоўскай царкве 2 валокі грунту. З візітацыі беразоўскай царквы ад 1727 года даведваемся, што: *parafya do cerkwi Berezowskiej Należąca wieś Berezowo i wieś Stare Berezowo*. Прыход у Старым Корніне ўзнік толькі ў 1631 годзе. Паводле люстрацыі Падляшскага ваяводства назва вёскі Новае Беразова паяўляецца ў 1616 годзе. З гэтага вынікае, што першая царква была ў Старым Беразове, а Корнін належаў Беразоўскаму прыходу. Першая царква была пабудавана ў 1631 годзе. Яшчэ сёння можна прачытаць надпіс на камені: *создано сей храм року 1631...* а далей ініцыялы *МТ*. Другая царква ў гонар св. Міхала была ўзведзена ў 1724 годзе, аб чым сведчыць візітацыя ад 1727 года, у якой чытаем аб царкве 1631 года: *drewniana W pul stara o której niszej cerkiew stara daleko mieysza pod dachem dobrym z krzyżem wielkim bez kopuły. Dzwonico z babińco z babińcem w jednym zrębie...* далей чытаем: *Cerkiew w tem, że druga drewniana Niby obok z starą stoiąca na Wschód zimowy in formom krzyża Machina wielka z kaplicami z zakrystyami y z skarbem ze srzodkiem okrągłym dosc wyniosłym*. На захаванай да сённяшняга дня мемарыяльнай дошцы ад 1733 года віднеецца надпіс: *Iz cerkiew stara assupit Tytuly SS Michal Archaniola y Anny...* З гэтага вынікае, што ўзведзеная ў 1631 годзе царква была пасвячана ў гонар св. Анны, а другая, пабудаваная ў 1724 годзе, у гонар св. Арханёла Міхала, паколькі не называецца другі патрон — св. Анна.

Царква св. Анны існавала ў 1733 годзе і напэўна яшчэ нейкі час пазней, але цяжка ўстанавіць ці ўпрыгожвала яна прыход у палове XIX стагоддзя. З разабранай царкоўнай званіцы св. Міхала ў 1892 годзе была пабудавана царква, таксама са званіцай, св. Анны, пра што паведамляе „Клировая ведомость", а ў 1903 годзе правялі яе капітальны рамонт і асвяцілі ў гэтым жа годзе. Тады ўзнікае чарговае пытанне: чаму ў такі кароткі час праводзіўся капітальны рамонт? Ці існавала старая царква, да якой дабудавалі званіцу (новая царква св. Міхала ад 1893 года не мае званіцы)? Шанаванне св. Анны працягвалася тут здаўна (у меншай ступені чым Корнінскай Божай Маці) і дайшло да нашага часу. У дзень Успення св. Анны сыходзіцца на малітву многа багамолаў, а апошнім часам з Гайнаўкі выходзіць пешае паломніцтва ў Старакорнінскі санктуарый. У цяперашняй царкве св. Анны знаходзяцца райскія дзверы з царквы, якую фундаваў Ян Клеменс Браніцкі ў 1724 годзе. З візітацыі ад 1727 года ведаем, што ў другой царкве ад 1724 года ў: *Oltarzu byl obraz ten na drzewie wzdluz pięćdzi dwie a wszerz Niby putory pędz... Malowania bielowego ubogiego z ruska...* З мемарыяльнай дошкі можна даведацца, што: *Obraz Matki Boskiej cudami y Łaskami wslawiony Roku 1710, w których po różnych miejscach powietrze panowalo szarańcza.* З выдадзенай 13 сакавіка 1801 года ў Супраслі манаграфіі „Doniesienie o miejscach y obrazach cudownych w dyecezji supraskiey będących" паведамляецца, што корнінская ікона была копіяй іконы Ляснянскай Божай Маці, напісанай у руска-візантыйскай мастацкай традыцыі.

У пачатку XVIII стагоддзя на Падляшшы з'явіліся цудоўныя іконы Корнінскай, Гадышэўскай і Райскай Божай Маці. Быў гэта наглядны знак, што Люд Божы не быў пакінуты сам па сябе і што павінен шанаваць веру продкаў. Біблейны Майсей вёў свой народ па пустыні сорак гадоў, каб вярнуцца ў Запаветную Зямлю. Вернікі ўсходняга абраду ў XVII—XVIII стагоддзях перажывалі трагічныя моманты — зняволенне, прымус, каб пасля вярнуцца на ўзлонне Праваслаўнай царквы. Лацінізацыя рэлігійнага жыцця была чужая натуры вернікаў усходняга абраду. На працягу гэтых стагоддзяў Усходняя Традыцыя не прапала, а цяжкі перыяд дапамаглі пражыць славянская мова, царкоўная традыцыя і абычаі.

Часта гаворым, што ў наш час цуды не здараюцца. І вось здзейсніўся цуд. Пасля гадоў ліхалецця, ваяўнічага атэізму з'явіўся чалавек, які знайшоў рукапіс, распрацаваў яго і выдаў. Божая Маці не пакідае сваіх дзяцей сіротамі, а гэта знак для адраджэння Марыйнага культу Старакорнінскага санктуарыя.

Можна верыць, што ўваходзячы ў Трэцяе Тысячагоддзе, па Божай Волі, будзем, як гэта было стагоддзі раней, паломнічаць у Стары Корнін і плённа карыстацца дабрадзейнасцю Божай Маці.

Аўтару так прыгожа выдадзенай кнігі, які сістэматычна набліжае нам нашу гісторыю, трэба толькі дзякаваць. Чытач знойдзе ў ёй апісанне цудаў, само з'яўленне іконы Божай Маці, а таксама сваю мясцовасць, прозвішчы сваіх продкаў, а дзякуючы таму і свае карані. Чакаем далейшых выданняў, якія дапамогуць нам пазнаёміцца з гісторыяй нашага народа.

**(Г. С.)**

**Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych.* Do druku przygotował i wstępem opatrzył Antoni Mironowicz, Białystok 1997, ss.201.

# Бібліятэцы ў Міхалове — 50

У гэтым годзе Гмінная публічная бібліятэка (ГПБ) у Міхалове адзначыць 50-годдзе дзейнасці. Паўвеку таму знаходзілася яна ў будынку з XIX ст. па вуліцы Гераніміўскай (ён стаіць тут і цяпер). Першым бібліятэкарам быў Вацлаў Грыка, затым замяніла яго Юлія Матыс, а цяпер бібліятэкай загадвае Ніна Тарасэвіч.

Зараз у ГПБ звыш 18-тысячны кнігазбор. Апрача таго філіял ГПБ у Шымках распараджаецца 10,5 тыс. тамамі і ў Бандарах — 6,5 тыс. У мястэчку бібліятэкай карыстаецца 995 чытачоў, а ў Бандарах і Шымках — 42.

На паліцах у чытальні ГПБ у Міхалове сустрэнем таксама мясцовае „Рэха Міхалова", „Манаграфію Міхалоўскай гміны" Лешка Носа — старшыні Таварыства прыяцеляў Міхалоўскай зямлі ды „Легенды Міхалоўскай гміны" Лешка Носа і Рышарда Варабея.

У сувязі са знакамітым юбілеем гміннай бібліятэкі яе кіраўнічка рыхтуе аўтарскую сустрэчу з мясцовымі літаратарамі: Рышардам Варабеем, Нінай Бяленяй, Юліяй Яращук і Паўлінай Тарасэвіч, якая адбудзецца ў маі. Падчас гэтага мерапрыемства з дэкламацыямі выступяць мясцовыя школьнікі. **(гай)**

# III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:
— І група: дзеці і моладзь пачатковых школ,
— ІІ група: моладзь сярэдніх школ,
— ІІІ група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).
2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.
3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok

з прыпіскай на канверце: III Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.
5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.
6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 10 мая 1998 г. (вырашае дата паштовага штампа).
2. Конкурс завершыцца да 2 чэрвеня 1998 г.
3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 3 000 злотаў. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.
2. Аб падзеле і вартасці ўзнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.
3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.
4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.
5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.
2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.
3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok
tel. 435-022

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

**Арганізатары**

# Гісторыя паміж Гайнаўкай і Беластокам

Пані Кацярына Ст. з мястэчка Н., так здарылася, у дзеўках была і старушкай. Пасаг свой трымала да сівых валасоў — салідную мураванку, з сучаснымі дабудаваннямі. От, калі б мела з кім, жыла б шчасліва, у цёплай, выгоднай хаце. А колькі тых маёнткаў у апошнія хвіліны трэба — кожны ведае. Чалавеку найбольш трэба цеплыня чалавечага сэрца, не менш чым цёплая печка, каб абагрэла бакі. Пакуль дажывеш да сумнага канца, а сілы ўжо страціў, каб з усім сам спраўляцца, то хочацца хоць крыху адчуць чужую апеку, клопат хоць далёкай радні.

Са сваякамі, кажуць людзі, найлепш выходзіцца толькі на сямейным здымку. Але пані Ст. не наракала — быў у яе наймалодшы, дужы яшчэ брат Мікалай, які ніколі на забываў пра сястру ні ў будны дзень, ні ў свята. Людскі чалавек ён, нават для чужых. Двое дзяцей у яго, сын і дачка, якіх памагала ў свой час няньчыць цёця Кася. Адзіная суцеха ёй на старасць — параслі дзеці разумныя, вучонымі. Параілася пані Кася з братам — і рашыла пакінуць свой дом на пляменніка. Прапісала яго ў сваёй хаце, а сама прапісалася ў брата, хоць далей жылі як раней. Але вось Раман пазнаёміўся з дзяўчынай, у якой ёсць свой дом, ажаніўся і пасяліўся ў жонкі. Прыехаў з бацькам да цёткі — нашто яму гэты домік, мяркуючы з палацам, у якім цяпер жыве? Няхай цёця Кася жыве хоць сто гадоў, прапісаная ў брата, а каб дар не марнаваўся, можна перапісаць цётчын дом на малодшую братаву дачку.

— Апісвай, Ромка, тады на Анэтку, бо каму ж пакіну хату, як не ёй? Хай не будзе клопату...

Паперы рэч нескладаная, абы заплаціць за скарбовыя маркі і падатак. Пані Кася далей гаспадарыла ў сваім доме, цяпер уласнасці свай братанкі, прапісаная, як раней, у брата. А Анэтка, вучаніца сярэдняй школы, пасля студэнтка, жыла ў хаце свайго бацькі.

Праз тры гады найбольш гуляла на шлюбе пляменніцы вясёлая бабулька Кася. А праз пару дзён завітала да яе маладая пара. Загадалі аддаць ключ ад дому. Яны ж — уласнікі. Адчапіла запасны ключ цёця Кася, падала пляменніцы, але тая рашуча дадала:

— Гэта мой дом, і я цябе тут не маю ахвоты бачыць. Цётка ж прапісана, дарэчы, у майго таты. Забірай, што табе трэба, рэшту вывезем на сметнік.

— Ды ж у Колі месца для маёй мэблі не будзе... І мяшаць яму буду, няхай ён з Ганнай цяпер, вольныя, пажывуць...

— Калі не падабаецца так — можаш у дом апекі.

— Як гэта так? Гэта ж мой дом, я разам з бацькам яго ставіла...

— Калі гэта было! Ты, дарэчы, цяпер тут не гаспадыня, і даўно ўжо. Я гэты дом атрымала ад майго брата. Забірайся! А калі не — вызываю паліцыю. Вось тут сілай уварвалася нейкая шалёная асоба, і намагаецца не ўпусціць праўнага ўласніка! Ты, цётка, бачыш, бяспраўна займаеш мой дом, і права за мною!

У паліцыю пазваніла сама пані Кася. А ў яе дакументах стаіць чорным па белым: тут яна не пражывае. Тут уласніца ад трох гадоў — Анэта Ст.-Ч., і ейны муж тут прапісаны, Арнольд Ч. Паперы ў іх у парадку.

— Дзеткі, мілыя, дайце хоць мне да смерці дажыць на ўласным смецці! — загаласіла пані Кася. — Куды ж мне ісці, як жа я пражыву...

— Чаго ты ўчапілася? — пляменніца рабілася ўсё больш агрэсіўная. — Многа табе засталося? Хопіць твае пенсіі на дом старцаў. А, папраўдзе, такой вар'яткі месца хутка аформіць можам у Харошчы, ведаем, як гэта *залатвіць*.

Не дапамаглі ні просьбы бацькоў, ні брата, ні папрокі суседзяў. Дакумент ёсць дакумент, а на сваім падворку — кожны сам сабе ваявода.

Як жывецца пані Кацярыне і яе сваякам, папытайцеся ў гмінным мястэчку паміж Гайнаўкай і Беластокам. Не ў адным такім мястэчку, не ў адной вёсцы, не ў адным горадзе такія гісторыі бываюць, такія нелюдзі. А зачапі такую Анэтку, скажы, напішы праўду — кінецца палохаць судамі. Толькі азвіся (таму і не падаем поўных даных герояў, хоць, напэўна, прыбяжыць у рэдакцыю самая бессаромная персона). А калі той Страшны Суд будзе; далёка ён, і ці ўвогуле, уздыхае няшчасная бабулька Кася.

Дачакаемся!

**Міра Лукша**

# Як усцерагчыся ад сектаў

Штораз часцей даходзяць да нас трывожныя чуткі пра розныя секты. Здараюцца ў іх калектыўныя самагубствы, рытуальныя забойствы, апаганьванне магільнікаў. Сапраўдную драму перажываюць бацькі, якія шукаюць папаўшых у секты дзяцей. Гэта ўсё стварае атмасферу бездапаможнасці ў грамадстве, узмацняе страх перад сектамі, якім прабелы ў заканадаўстве дапамагаюць у свабодным вядзенні сваёй дэструктыўнай дзейнасці.

У гісторыі хрысціянства сектанцтва было вядомае з самых яго пачаткаў і ўжо ў старажытнасці вялася барацьба з розднага роду раскольніцтвам. Цяпер, дзякуючы сродкам масавай інфармацыі, шкодны ўплыў сектаў на чалавечую псіхіку пашыраецца і штораз больш становіцца небяспечным.

Секта процівастаўляе сваю адзінкавую думку ў справе веры вучэнню ўсёй Царквы. Характэрнай рысай дзейнасці секты з'яўляецца тое, што яна даходзіць да людзей веруючых у Бога і, выкарыстоўваючы свае адмысловыя метады, намагаецца падарваць гэтую веру, засеяць зерне няўпэўненасці. Прапагандыстамі ў сектах з'яўляюцца найчасцей агрэсіўныя і нахабныя людзі. Напрыклад, ігавісты ўмеюць прыйсці да чалавека і запрапанаваць яму простыя спосабы выкаранення ўсялякага зла. Хісткі, падатлівы на навізну чалавек, які праявіць цікавасць да такіх „прапаведнікаў", становіцца аб'ектам іхняй ідэалагічнай апрацоўкі. Ягоны адрас перадаецца іншым ігавісцкім прапагандыстам і ў выніку пачынаюцца шматлікія наведванні ў кватэры, размовы, пакіданне сектанцкай літаратуры. Каб не папасціся ў іхныя сілы, ужо пры першай сустрэчы не трэба заводзіць з імі гутаркі, не прымаць ніякіх выданняў, а толькі падзякаваць і зачыніць дзверы.

Характэрнай рысай сектаў з'яўляецца адсутнасць свабоды. Людзі абавязаны там поўнасцю падпарадкоўвацца сваім бонзам. Секты апынуліся па-за мяжою біблейскага разумення свабоды, якая вядзе перш за ўсё да вызвалення ад граху — зла, якое знаходзіцца ў чалавеку. У сектах галоўны націск кладзецца на тое, каб зло, калі не развіваць, дык пакінуць у чалавеку. Гэтую праўду трэба даводзіць да маладых людзей, тлумачыць ім сутнасць свабоды, указваць на адказнасць чалавека за свае ўчынкі.

Каб засцерагчы моладзь ад уздзеяння сектаў, патрэбна садзеянне сям'і і Царквы, іхняя адкрытасць на праблемы маладога пакалення. Царква не павінна маладым людзям асацыявацца толькі з абраднасцю. Вялікую ролю могуць адыграць урокі рэлігіі. Хрысціянскія Цэрквы павінны намагацца распрацаваць супольную прафілактычную праграму, паколькі гэтая пагроза тычыцца ўсіх канфесій. Усе хрысціянскія Цэрквы павінны ствараць такую супольнасць, у якой чалавек не будзе адзінокім, але будзе адчуваць зацікаўленне сваёй асобай. У масавым душпастырстве, калі прыход налічвае некалькі тысяч чалавек, стварэнне супольнасці з блізкімі міжлюдскімі кантактамі аказваецца вельмі складанай справай. Зварот **дарагія браты і сёстры** не заменіць **братэрства ў жыцці.**

**Міхал Мінцэвіч**

# Nie jesteśmy wandalami

Адгалоскі

Z wielką przykrością przeczytaliśmy zakończenie artykułu redaktor Ady Czeczugi „Wieczar pry swieczkach" („Niwa" 1998, nr 14, s. 8). Tekst ten jest relacją z zorganizowanego przez nas spotkania z Alesiem Barskim (Aleksandrem Barszczewskim), które odbyło się 18 marca br. na Wydziale Pedagogiki i Psychologii Uniwersytetu w Białymstoku.

Pani Redaktor Ada Czeczuga konsekwentnie tropi nasze „niedociągnięcia" organizacyjne. W artykule będącym sprawozdaniem z wieczoru autorskiego Wiktora Szweda zarzuciła nam brak wolnych miejsc w sali, w której odbywało się spotkanie. Zapomniała jednak dodać, że na spotkanie z Wiktorem Szwedem przybyła z ponad trzydziestominutowym spóźnieniem. Organizowane przez nas spotkania poetyckie z cyklu „Poeci różnych kultur" cieszą się ogromną frekwencją i stale rosnącym zainteresowaniem. Nie możemy więc, niestety, gwarantować siedzących miejsc tym, którzy przybywają z ponad półgodzinnym spóźnieniem. Tak więc w myśl porzekadła: „Kto późno przychodzi, sam sobie szkodzi..."

Tym razem natomiast zarzut wytoczony pod naszym adresem przez red. Adę Czeczugę był o wiele cięższy: rzekomo wyrywaliśmy kartki z tomu poetyckiego Alesia Barskiego „Blizkaść dalokaha" i zajmowaliśmy nimi miejsca dla honorowych gości. To nieprawda! Nie jesteśmy wandalami za jakich uważa nas Szanowna Pani Redaktor. Spotkanie z Alesiem Barskim zorganizowaliśmy z potrzeby serca, zainteresowania, podziwu i szacunku dla Jego twórczości i osoby. Z jakiego więc powodu mielibyśmy niszczyć Jego książkę?

Podczas spotkania z Alesiem Barskim dysponowaliśmy 1 (słownie: jednym) tomikiem „Blizkaść dalokaha". Na potrzeby tego wieczoru wypożyczyliśmy go od dr Teresy Zaniewskiej. Był całkowicie rozklejony. Gdy Pani Doktor dawała nam tę książkę, powiedziała: „Przykro mi, że daję Wam taką zniszczoną książkę, ale wydano ją w czasach kryzysu, w 1983 roku, gdy brakowało dosłownie wszystkiego. Słaby klej, brak szycia. Ten tomik od razu rozpada się w rękach, a korzystałam z niego wielokrotnie, m.in. przy pisaniu książki „Strażnicy pamięci". Ale cieszę się, że chociaż na tak niskim poziomie edytorskim, tomik „Blizkaść dalokaha" w ogóle mógł się ukazać w tak kryzysowych czasach, bo to mądra i piękna książka".

Szanowna Pani Redaktor! Oto i cała tajemnica „wyrywanych" kartek. Łączymy nasze pozdrowienia i życzymy bogatszej inwencji. Jeżeli w przyszłości usilnie szukałaby Pani uchybień organizacyjnych naszych spotkań, to zamiast przypisywać nam czyny nigdy przez nas nie popełnione, łatwiej będzie napisać po prostu, iż świeczka na stole była krzywa, obrus leżał nierówno, krzesła nie były jednakowe, a ciastka za mało słodkie.

Zapraszamy Panią Redaktor na kolejny organizowany przez nas wieczór z cyklu „Poeci różnych kultur". Mamy nadzieję, iż będzie miała Pani odwagę przyjść i spojrzeć nam prosto w oczy.

**Studenci II roku Pedagogiki Wydziału Pedagogiki i Psychologii Uniwersytetu w Białymstoku: Marta Lenkiewicz, Katarzyna Żukowska, Piotr Nowik, Krzysztof Łokić.**

**Ад аўтара:** Шаноўныя студэнты універсітэта, будучыя педагогі! Як чалавек дакамп'ютэрны я маю яшчэ пашану да кніжкі. І клей тут ні пры чым, бо няважна, ці старонкі з **адзінага (!)** там зборніка Алеся Барскага былі выняты брутальна, ці без ужывання сілы. Вершы ж пісаліся не дзеля таго, каб імі займаць месцы для гасцей. Факт застаецца фактам: у знаёмага паэта, які сядзеў насупраць мяне і бачыў гэту „акцыю", зашчымела сэрца. Гэта так, як бы распатрашылі маю кніжку, сказаў ён мне.

Сумна, што арганізатары, якім я „нізка кланялася" ў „Ніве" н-р 48, ад 30.XI.1997 года „Віктар Швед — паэтычны і музычны", не зразумелі маіх інтэнцый і ў гэтым артыкуле. **Цесната на аўтарскім вечары — паэту вялікая радасць.**

Што ж датычыць тых „za mało slodkich ciasteczek", дык у маім узросце яны тым лепшыя, чым менш салодкія.

**Ада Чачуга**

# У Польшчу абы-каго не бралі

**Пра бежанства і грамадзянскую вайну ў Расеі расказваюць Юзаф НАВІЦКІ, які нарадзіўся 15 лістапада 1903 года, і яго жонка Анна, якая нарадзілася перад Ганнай 1906 года.**

З малых гадоў памагаў я дома, расказвае спадар Юзаф, а калі падрос — пасвіў кароў. Я ніякай адукацыі не меў, але мой на тры гады мяне старэйшы брат закончыў двухкласную школу — быў даволі *вучоны*. Каля яго я таксама многа *падлапаў*, з яго кніжак. Вясковая школа для нас была ў Мастаўлянах, але чыгуначнікі выхадайнічалі ва ўлад школу для сваіх дзяцей у Зубках, наймаючы памяшканні ў нашай хаце. І дзеці ўсіх працаўнікоў чыгункі тутака вучыліся.

У 1915 годзе ўся наша вёска, Зубкі, уцякала ад немца, і мы тожа ўцякалі. Казакі выганялі, гаварылі: „Уезжайте, бо немец ідёт". А мы таго немца ніколі не бачылі, то і пабаяліся, падумалі — можа пазабівае ці неяк пакарае. Нас завезлі поездам проста ў Омск. Як ехалі ў Сібір, то апекавалася намі дзяржава: давалі харчы, плацілі грошы. Заехалі ў *переселенческий пункт*, які размяшчаўся ў бараках. Там нас пасялілі, на месцы былі і кухня, і баня, кармілі нас там і таксама плацілі. Патрабуючым далі цёплую вопратку на зіму: каму шапку, каму валёнкі, каму што... А на прадвесні, калі яшчэ снег ляжаў, вывозяць нас з тых омскіх баракаў у вёскі. Мы таксама ўсёю сям'ёй, апрача таго вучанага брата, выехалі ў вёску. А ў тых сібірскіх вёсках людзі — не такія як у нас! Дабрадушныя, без хітрасці... Каб гэтак да нас прыехалі якія, то тут на іх і не глянулі б: жывіце сабе як хочаце. А там нам і ўлады дапамагалі, а людзі яшчэ больш таго! Ну, але бацька не хацеў сядзець бяздзейна і пачаў за працаю разглядацца. І знайшоў працу ў *заімцы* — гэтак там маёнткі называлі — пяць кіламетраў за вёскаю. Зайшоў да гаспадара, ён распытаў пра нас. Калі бацька назваў сваё прозвішча — Навіцкі — гаспадар адразу сказаў, што мы палякі. Але працу бацьку дае, і мяне бярэ на памочніка агародніка. А гаспадар меў аранжарэю і парнікі. Той агароднік, якому я меў памагаць, неўзабаве кідае працу і гаспадар стаўляе мяне, маладога хлопца, на яго месца. Трэба было там гатовіць і зямлю, і *кубачкі*, і скрынкі, і насенне... Вырошчваліся там агуркі, радыска, салата, цыбуля, пазней памідоры... Апрача аранжарэі ў майго гаспадара былі яшчэ агарод і малінавы сад. Першы год гаспадар мяне вучыў садзіць, палідваць, а на другі год я ўжо ўсё рабіў самастойна, бо гаспадар меў не толькі той маёнтак, але меў ён яшчэ і некалькі дамоў у горадзе; адукаваны і дбайны ён быў. І ўсім работам я там навучыўся: і шкло рэзаць, калі хто шыбы, якія з паўднёвага боку цяпліцы былі, павыбіваў, і скрынкі збіваць, і зямлю рыхтаваць.

Калі прыйшлі бальшавікі, то ўсё раздалі людзям. Прыехаў камісар, гадоў мо 26-27, і стаў ліквідаваць гэты памешчыцкі маёнтак. А той памешчык быў добры для людзей і людзі яго *ўважалі*. А і бальшавікі толькі маёнтак адабралі, а да яго самога не чапляліся, магчыма таму, што ён быў жанаты са *служанкаю*; бо калі б з дваранкаю, то невядома...

Пры маёнтку была царква, у якую прыязджалі вяскоўцы; сказаць нельга, што яны былі вельмі набожнымі, але былі простымі, шчырымі людзьмі. Царква тая была мураваная, вялікая, пабудаваў яе быў адстаўны генерал Карбушаў. Побач царквы ў старожцы жыў стораж, які зімою награваў царкву; была там печ і сістэма абагравання з цэглаў, так як у нас ляжанкі. Ідучы ў царкву людзі распраналіся са сваіх шубаў і *ягаў* — адзення з казіных шкураў вывернутых ворсам наверх. Маліліся ў лёгкай вопратцы, а пасля — перад выхадам з царквы — зноў апраналіся па-зімоваму.

*Цемната* там была: маладыя людзі, што былі на фронце, прысылалі лісты і ніхто ў вёсцы не ўмеў іх прачытаць. А вёска была вялікая, не такая як у нас, там у вёсцы сотні будынкаў стаялі. За вёскаю было возера, а за возерам вялікая рака Іртыш, якая, калі разлівалася, падыходзіла аж пад вёску. Каля самое вёскі паша была, там пасвіліся цяляты, жарабяты, называлася гэта *паскоцінаю*. Загароджана яна была, а ў агароджы брамы былі, якія праезджы абавязаны быў пасля сябе зачыняць. Далей, за пашаю, быў бярозавы лес — *рошча*, а за ёю, нейкія пяць кіламетраў ад вёскі, былі *пашні*. Поле там было *падушна*: зямлі там ніхто не купляў і ніхто не арандаваў; як мы заехалі, далі нам зямлю, а пасля каня і карову. Бывала, збярэцца вёска на *дзялёжку* і вырашаюць усе па колькі дроў на комін на апал даваць. Сеялі там пшаніцу і проса; калі мы заехалі, то тады там проса было пасеяна яно мо з дзесяць гадоў расло і каму трэба было, той прыходзіў і жаў сабе тое проса.

Таксама калі ваўкі моцна надакучылі, вяскоўцы выходзілі ваўкоў біць. Сядалі на коней і чаргова ганялі выбранага ваўка пакуль той з сіл не выбіўся, і дабівалі. Так білі некалькі ваўкоў.

Пасля тых першых бальшавікоў разагналі. Прыйшлі казакі і чэхі. У майго гаспадара хіба з пяць чэхаў працавала, бо ў Омску быў лагер для ваеннапалонных і можна іх было браць на гаспадарку; былі яшчэ там мадзьяры і русіны. І з тых чэхаў была сарганізавана армія, апрануты яны былі ў англійскую вопратку. У Омску стаяў Калчак, яго кватэра была недалёка дома майго гаспадара і пільнавалі яе казакі вярхом і пяшком дзень і ноч. Мой гаспадар меў яшчэ другі маёнтак, у якім трымаў шаснаццаць пар валоў. Жывёлу трымалі там у хлявах з *плятні*, толькі *амбары* былі абабіты тонкімі дошкамі, але крыты бляхаю.

Калчак стаяў у Омску мо два гады, а пасля бальшавікі вярнуліся і тады стала *камуна*. У камуне разам елі, а па вечарах спявалі. Новаму камісару, бо той што раней быў — прапаў, можа дваццаць гадоў было; назначыў ён мяне на працу ў „маёй" аранжарэі. Быў я ў камуне мо тры месяцы і да бацькоў вярнуўся. Стаў я на працу ў *баню*: выдаваў наведвальнікам тазы, а звязаную ў скрутак вопратку браў ад іх у скрынку і тую скрынку высока ў клетку стаўляў, а пасля назад аддаваў. Цяжкая праца, а я ж падлеткам быў і так збляг, што ледзь на нагах трымаўся.

Выехалі мы адтуль, бо на радзіму захацелася. Калі стала незалежная Польшча, тады стала яна сваіх людзей па Расеі шукаць. У Омску было польскае консульства, бацька з братам паехалі туды. Але палякі абы-каго не бралі; трэба было даказаць сваё паходжанне: назваць найбліжэйшы маёнтак, сказаць як ён выглядаў і хто быў там панам. Месяц часу чакалі пасля на транспарт, і мо з месяц у таварных вагонах ехалі.

Як вярталіся ў дваццаць першым, дык два мяшкі мукі з сабою везлі, якую бацька памяняў за паўгектара пшаніцы, што ў полі пакідаў; тую муку і сухары то яшчэ ў Зубкі прывезлі. Там, дзе быў Калчак, *капіталістычная* ўлада была і не было ніякага голаду, а ў Валагодскай, Пермскай і Вяцкай губернях *пагібель* была — там халера людзей душыла! Мы ехалі сюды, а яны ўцякалі ў Сібір. У вагоне, што насупраць затрымаўся, глядзіш — а там ужо чалавек пяць-шэсць нежывых, як дровы. Там такая была галадоўка; нашы людзі смецце выкідалі з вагонаў, а яны хадзілі і падбіралі! Нам *едзэне* давалі *жандовае*: бацька хадзіў з вядром па кашу са спаранага неачышчанага ячменю. Мы не хацелі гэтага есці, дык бацька аддаваў тым, што ўцякалі ад голаду. І яны ўсё елі, нават лускі не выплёўвалі. Бацька гаварыў каб забіралі ўсё, то яны распасціралі палу шыняля і ў палу тую кашу ўкідалі. А жыды, што разам з намі ехалі, дык і не хадзілі па тую кашу, бо на яе глядзець не хацелі нават. Не магу вось уявіць, як так рускія маглі жыць; часам жывіна здохла, то яны тое мяса бралі і елі.

Прыехалі мы ў Зубкі, а тут усё голае, вёска спаленая, нават ніводнае цэглы не было! Нанасілі на плячах круглячкоў з лесу, збудавалі зямлянку, брат зрабіў печку...

А мы, са Свіслачан, кажа спадарыня Анна, заехалі ў Пензенскую губерню. Пазней, у 1917 годзе, калі стала неспакойна, пакінулі мы наша месца і падаліся шукаць новага. Бацьку, як ваеннаму інваліду, прыслугоўваў бясплатны праезд па Расеі. І я ездзіла з ім; дзе мы не былі — у Ташкенце былі, у Петраградзе былі, у Рэчыцы... У Ташкенце мы былі тры тыдні: там вуліцы высаджаны пладовымі дрэвамі і кожны каля свайго дома збіраў плады. Яны быццам вішні, быццам маліны — *салкавіцамі* тыя ягады называлі; былі іх два сарты: чорныя і чырвоныя. Мы былі акурат у той час калі *вату* і *едваб* збіралі. А жылі мы там у сваіх: там свіслачане былі — і Куляшы, і Пугачы... А найлепшыя людзі то на Украіне былі; мы туды з Рэчыцы па муку ездзілі, бо мукі ў Рэчыцы, калі прыйшлі бальшавікі, не стала. Нашага гаспадара і ўсю яго сям'ю забілі; цэлая хата ў крыві была. Выкапалі мы каля вакзала зямлянку і ў ёй жылі. А на радзіму вярнуліся мы ў 1919 годзе. Прыехалі, і мой бацька памёр ад тыфу; многа людзей тады памерла, бо лекараў не было, толькі голад быў. Нічога мы не мелі, мне было тады трынаццаць гадоў і я пайшла жабраваць, хадзіла ў Ляўкова, Боўтрыкі, Семяноўку... Больш, як па дзве бульбы не давалі: у мяшок кідалі. Што я перажыла! І мае дзеткі таксама зацярпелі. Сын *Юзэк*, што Вам шлюб даваў, сем гадоў кароў пасвіў, і ў школу хадзіў, і вельмі добра вучыўся.

* * *

Сужонству Юзафу і Анне Навіцкім у лістападзе мінула семдзесят гадоў супольнага жыцця; яны — **найстарэйшая пара ў ваяводстве**! З нагоды юбілею атрымалі ліст з віншаваннямі ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай Аляксандра Квасnеўскага. Прысвоіў ён ім і медаль з гэтай нагоды, але медаля ў іх няма. Казалі нам ехаць у гміну, гаворыць спадарыня Анна, але мы такія медалі ўжо маем! Вось каб далі нам такую ўзнагароду, за якую можна было б купіць сабе нейкую памятку з гэтай нагоды! А жывецца нам цяпер вельмі добра, дзеці пра нас вельмі дбаюць, толькі гэтая старасць...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# На дэмаграфічным мінусе

У 35 вёсках і хутарах Нараўчанскай гміны пражывае цяпер 4945 чалавек. Найбольш у Нараўцы — 1008 жыхароў, у Семяноўцы — 570, Старым Ляўкове — 460, Скупаве — 273, Новым Ляўкове — 267 і ў Міклашэве — 273. Ад 25 гадоў лічба жыхароў гміны даволі рэзка змяншаецца. У 1990 годзе пражывала ў ёй 5330 асоб, а цяпер — 4945, значыць, менш на 385 асоб.

Варта дадаць, што дванаццаць гадоў таму Нараўчанская гміна налічвала 6570 мужчын і жанчын.

У 1997 годзе ў гміне нарадзілася 31 дзіця ды памерла ажно 78 чалавек. Пажаніліся 27 пар, найбольш у лютым, жніўні, верасні і ў кастрычніку.

Найстарэйшай жыхаркай гэтай сельскагаспадарчай гміны з'яўляецца 102-гадовая Софія Харкевіч са Слабодкі. **(гаі)**

# Най... най... найстарэйшыя

Тыя, што пражылі 90 гадоў — гэта ўжо людзі даўгавечныя. На Беласточчыне такіх асоб нямала.

У Дубіцкай гміне ў Вілоках пражывае найстарэйшая жыхарка нашага ваяводства — 114-гадовая Даміціка Вілюк.

У Кляшчэлях жыве 105-гадовая Кацярына Міхальчук.

У Міхалоўскай гміне найстарэйшай жыхаркай з'яўляецца 105-гадовая Мар'я Мурашкоўская, якая жыве ў вёсцы Бахуры. Апрача яе 103-гадовая Мальвіна Шаповал пражывае ў Ялоўцы і 101-гадовая Вольга Чабан у Міхалове. Па 100 „вёснаў" пражылі яшчэ Анна Апольская з Бяндзюгі і Соф'я Горбач з Ялоўкі.

У Бельскай гміне 101 год жыцця пачала Дар'я Ярашэвіч з Кнарыдаў.

Найстарэйшымі жыхаркамі Чыжоўскай гміны з'яўляюцца 102-гадовая Агаф'я Селеванюк і 102-гадовая Галена Ліцкевіч з Чыжоў.

102 гады мае Соф'я Харкевіч са Слабодкі ў Нараўчанскай гміне.

У гміне Нурэц-Станцыя першынство па даўгавечнасці трымае 101-гадовая Мар'я Кавальчук з Машчоны-Панскай.

109-гадовая Алімпія Лебядзінская з Гарадка — найстарэйшая жыхарка тамашняй гміны. У Гарадку пражывае яшчэ 100-гадовы Раман Мордань. **(яц)**

# Парнасік

### Цяжка з працай

Цяжка сёння працу знайсці,
Нават вуліцу падмясці.
Усюды адказ: „Працы брак”,
І будзь мудры, небарак.
Беспрацоўе перавышае рубеж
І толькі жулікаў дзецям адкрыты
дарогі ў каледж.
Гэта робіцца за нашы грошы
за граніцай,
Пад амерыканскай і англійскай
спадніцай.
Англійская мова б’е ў нас рэкорд;
Капіталісты даюць нам свой „торт”,
Каб мы яго смела елі
І пад плотам без працы прыселі.
Непатрэбная мне англійская мова,
Я прывык да роднага слова —
Яно мне найдаражэйшае ўсе дні,
І падчас холаду, хваробы, зімы
Яно мяне грэе,
Што рукі і ногі не млеюць.
Таксама цаню польскую мову,
Люблю гаспадарку: свіней, курэй,
карову.
Польская мова мне службовая
І я — чалавек ужо не „новы”,
Скажу: пан прэзідэнт, міністры
Не пераліваўце сваіх пачуццяў
у чужыя „каністры”.
Уся Унія — не славяне,
А чужыя нам нарманы.
Праз сваю Унію стаўляюць нам
цяжкія варункі
І будзем плаціць потым „рахункі”.
З рускімі нам трэба трымаць
дружбу,
Бо ў багатых капіталістаў
д’ябальская служба.
Яны і малако будуць браць
без разбору,
Не баючыся эпідэміі і мораў.
Таксама і збожжа пойдзе гладка
Таму, што ў іх няма
капіталістычнага парадку.
А бульбу хто калісь ад нас браў
І вялікія грошы сялянам даваў?
Рускія! І з такімі трэба
найлепш жыць
І верна дружыць.
Немец добры гаспадар,
Але як успыхне сусветны пажар,
Ён нас ратаваць не будзе
ў цяжкія дні
І, думаю, нас возьме і без вайны.

**Мікалай Панфілюк**

### Каб былі здаровы

Каб усе былі здаровы,
Не пакіньце роднай мовы.
Трэ сваёй мовай ганарыцца
І ніколі не забыцца.
Куды б ехаў, дзе б не быў,
Каб роднай мовы не забыў!
Сваю мову трэба знаць,
І ёй дзетак навучаць.
Не забудь пра родну мову
(Тады будзеш і ты здаровы),
Каб ніколі не прапала
І ў пашане панавала.
Тым, што пішуць і чытаюць,
Шчасця і долі ўсім жадаю.

**Мікалай Лук’янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што з лесу вярнуўся мой муж (нябожчык) у вельмі падзертым адзенні. Асабліва патрэпаны яго штаны, ну, амаль попу відаць. Ён кудысьці выбіраецца. Крычу яму, каб пераапрануўся, бо выглядае, як нейкі абадранец. Ён у злосці сядае на фурманку і вельмі хутка ад’язджае. Гляджу, а ён амаль у хвіліну апынуўся аж пад другой вёскай, бачу яго зусім маленькім.

**Іда**

Астроне, мне прыснілася, што мы (з сям’ёй) знаходзімся ў мясцовасці, дзе часам адпачываем. Іду я па вадзе. Зіма. Возера пакрыта лёдам. З берага бягуць дзеці... і на лёд. Я здалёк бачу, што лёд заламваецца, і дзеці — адно за другім — ідуць на дно, а я не маю ніякай магчымасці дапамагчы ім.

Я падумаў, што летам не варта сюды прыязджаць, бо трупы будуць раскладацца і будзе тут страшны смурод.

**Васіль**

Іда! Ты пачала нейкую небяспечную гульню. Аб гэтым сведчаць лахманы твайго мужа, яго падзертае адзенне. Пацвярджае факт, што займае цябе хісткая, няпэўная справа, і тое, што муж ад’ехаў на фурманцы. Пакуль што няма ўпэўненасці, што табе ўдасца рэалізаваць свае планы.

Васіль! Цябе, на жаль, чакае нейкая страта, няўдача. Перш за ўсё аб гэтым можна меркаваць па тым ільдзе, які было пакрыта возера. Падругое, дзеці, якія маглі б табе прадвяшчаць добрае ў іншым кантэксце, бягуць на лёд, а ён заламваецца і дзеці ідуць на дно. Ты не маеш моцы, каб ім дапамагчы і толькі думаеш, што сюды не зможаце ўжо прыязджаць, бо трупы будуць раскладацца і будзе смурод. Нешта ў цябе, братка, не выйдзе.

**Астрон**

# Наша пошта

**У. Рудзінскі, Пэндлібурый (Вялікабрытанія):** На жаль, не парадую Вас, што Ваша прапанова будзе здзейснена. У кніжку Дзядзькі Кваса „Роздумы на калёсах” увайшлі лепшыя ягоныя ніўскія публікацыі і рукапісныя матэрыялы. Саставіць другую кніжку, якая, як самі пішаце, „будзе веля цікавейшая і смяшнейшая”, наўрад ці ўдалося б, паколькі былі б у ёй змешчаны публіцыстычныя і палемічныя тэксты — пераважна адгалоскі на публікацыі ніўскіх аўтараў і карэспандэнтаў. Выданне такой кніжкі ў даны момант немагчымае таксама і па фінансавых прычынах.

**Адольф Капелька, Кобрын (Беларусь):** У нас няма такіх магчымасцей, каб дапамагчы Вам пераехаць на пастаяннае жыхарства на Беласточчыну. Наконт арганізацый, якія дапамагаюць пераехаць у Польшчу, найлепш Вам будзе даведацца ў консульстве Рэспублікі Польшча ў Брэсце.

**Валянцін Семянюк, Райкі:** Спазніліся Вы з тэкстам пра Вялікі пост. Пакідаем яго ў рэдакцыйным архіве.

**Віталь Луба**

# Быў „Белы сон”, ёсць „Белая ружа”

Як мы ўжо паведамлялі, нядаўна ў Гайнаўцы ў будынку музея закрылі бар „Белы сон”. І вось 1 красавіка г.г. на месцы ранейшага бара адкрылі падобны толькі з кітайскімі стравамі пад назвай „Гоа гонг бянг” („Белая ружа”).

Кіраўніцтва гэтага рэстарана ўжо зараз прымае заказы на абслугоўванне сямейных урачыстасцей, а таксама на дастаўку страў да дому спажыўца.

**(гай)**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. вялікая паўднёваамерыканская птушка сямейства грыфаў, 3. афрыканская жывёла з доўгаю шыяй, 5. сталіца Нігерыі, 7. рака на захадзе Венгрыі, 9. цвёрды ком зямлі, 10. Іван, беларускі гісторык (1792—1852), 11. колішняя Таўрыда, 12. суд сельскай і гарадской грамады ў ВКЛ, 14. назва славян у рымскіх гісторыкаў, 16. горад са стодзесяціпавярховай Вежай Сірса (443 м), 17. фігура чалавека вылепленая са снегу.

**Вертыкальна:** 1. пасцельнае накрыццё, 2. жыхар Меккі, 3. сумесь вадкіх і цвёрдых рэчываў, 4. сюжэтная аснова літаратурнага твора, 6. прыняццё ў сям’ю дзяўчынкі на правах роднай дачкі, 8. Паўлюк, беларускі паэт (1813—1891), 9. птушка сямейства сініцавых, 11. колішні загадчык царскага стала ў Расеі, 13. аблік, абмерванне, абважванне, 14. зорка, альфа Ліры, 15. колішняя прылада для катавання.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 нумара**

**Гарызантальна:** ясак, Стрыт, „Ракіта”, айва, вугал, склока, Данілава, заказ, ерэтычка, медыцына, рупар, гнілушка, Байран, аковы, донг, шчыпцы, крыга, ярка.

**Вертыкальна:** атрута, тырада, Сойнінен, краса, акула, Стыкс, Лазуціна, кватэрка, зіма, кедр, счэп, Маўр, ракушнік, укары, адвага, пашча, група, Індыя.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Спартыўныя навіны

У Сямятыцкім асяродку культуры адбыліся ваяводскія спаборніцтвы Шахматнага турніра за Залатую туру („Złotą wieżę”). Удзельнічала ў іх восем камандаў з Беластоцкага ваяводства.

Першае месца заваявалі шахматысты з Сямятыч (у саставе: Януш Дзянісюк, Станіслаў Сяклюцкі, Ігар Высоцкі і Анеля Плановуская), другое — з Янова і трэцяе месца — з Монек.

* * *

Дзюдаісты з гайнаўскага спартыўнага клуба „Пушча” сталі ўжо вядомымі ў нашай краіне. Трэніруе іх Якуб Астапчук.

Нядаўна гайнаўскія маладыя дзюдаісты выступілі на макрарэгіянальных спаборніцтвах у Варшаве. У катэгорыі да 60 кілаграмаў вагі пераможцам стаў Пётр Стэц. У катэгорыі да 50 кг спаборнічаў Данель Жак. Ён прайграў адну барацьбу і канчаткова заняў трэцяе месца.

* * *

28 сакавіка г.г. Клуб футбалістаў і Рэдакцыя „Рэха Міхалова” арганізавалі ў Міхалове футбольны турнір за кубак войта Міхалоўскай гміны. Удзельнічалі ў ім каманды з Заблудава, Гарадка і Міхалова.

Пераможцамі сталі заблудаўскія футбалісты і яны заваявалі кубак.

**(гай)**

# Не курыце!

Цікава ведаць, што тытунёвы дым апрача нікаціну змяшчае ў сабе 4000 хімічных злучэнняў, якія надзвычай шкодна ўздзейнічаюць на здароўе чалавека.

Кожны год па прычыне курэння ўмірае на зямлі больш-менш 1 мільёна людзей. Цяпер з’явілася мода на некурэнне.

Курыць папяросы асабліва не рэкамендуецца цяжарным жанчынам. Дзеці матак-курцоў слабей развіваюцца фізічна і псіхічна, менш загартаваныя і больш падатныя на захворванні.

Рэзультатам курэння з’яўляюцца наступныя хваробы: рак лёгкіх, рак горла, хваробы сэрца, бранхіт, язва страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Ці ж варта курыць?

**Даслаў Мікалай Варанецкі**
*(паводле календара „Zdrowie”)*


# Ніва

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

<u>Фрашкі пра нашых</u>

## Магучая куча

Адна дрысне.
Другі свісне.
Усім здаецца — ураган!
Трэці
вусом паварушыць,
Шостаму —
абвіснуць вушы.

Публіка смяецца.
Няма куды дзецца.

## Сілачка

Забараніла Тыгра
рэзаць бараноў
і авечак
у сваёй акрузе
(на несваім лузе),
ні гусачак,
ні русачак
ні вапу,
ні папу,
ніколі!

Вандал Арлянскі

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці ў гэтым рэстаране мяняюць абрусы?

— Вядома! Абрус з вашага стала ў мінулым тыдні ляжаў на першым стале ад акна.

* * *

У рэстаран увайшоў Мішка, сеў за стол ды завязаў сабе сурвэтку вакол шыі. Убачыў гэта кіраўнік, паклікаў афіцыянта і загадаў растлумачыць далікатна наведвальніку, што гэтакі абычай выйшаў ужо з моды. Афіцыянт падыходзіць да госця і пытае:

— Вы хочаце брыцца ці стрыгчыся?

* * *

— Заўсёды, калі вяртаюся ноччу, мая жонка паводзіць сябе як гісторык.

— Хіба істэрык?

— Не, гісторык! Выгаворвае мне ўсё маё мінулае.

# Карысныя ваяводскія парады

У нашай краіне сёння найбольшыя страсці выклікае новы падзел дзяржавы на ваяводствы. З усіх бакоў даведваемся пра пратэсты шматлікіх урадніцкіх балельшчыкаў, якія ад Варшавы дамагаюцца месца сваім любімым гарадам у адміністрацыйным экстракласе. Толькі ўсе вылазкі гэтых балельшчыкаў адбываюцца недзе далёка ад нас, ствараючы ўражанне пра нашых, што тут не маем за што змагацца, бо на Беласточчыне *nihil novi*. Але калі добра прыгледзецца, і ў нас ёсць неблагі грунт пад барацьбу за ваяводства. За новае ваяводства з новым ваяводскім цэнтрам. У Белавежы.

Белавежцы крыху нясмела падалі заяўку на свае аспірацыі, ды толькі паятовыя. А гэта выразная недаацэнка іх магчымасцей, бо заслугоўваюць яны на намнога больш па той простай прычыне, што ў іх многа цыцатых жанчын, якія могуць набіраць многа паветра і такім чынам выдатна співаць. Гэта факт, абнародаваны аўтарытэтнейшым вучоным, напэўна небеспадстаўна, а на аснове грунтоўнейшых навуковых даследаванняў, не адно тэарэтычных. Тыя выдатныя жанчыны сваімі выдатнымі спевамі могуць дабіцца высокага культурнага прызнання і адпаведнай яму ўзнагароды. Такою ўзнагародаю ў нас не з'яўляецца ні Георгіеўскі крыж, ні Нобелеўская прэмія, а з'яўляецца ёю Прэзідэнтаў гадзіннік.

Дапытлівых людзей можа цікавіць (бо гэтых выкаратняў усё цікавіць), што гэта за гадзіннік: „Patek", „Cyma" ці мо „Ruhla" і за якія фонды ён. Вядома толькі, што гадзіннік той наручны, але ж носьбіта такой узнагароды, асабліва калі ён не займаецца палітыкаю, а толькі культураю, не выпадае некультурна хапаць за руку, задзіраць рукаў і заглядаць. Адказу на такое пытанне трэба тады шукаць аналітычным аналітычным метадам. Агульна вядома, што ў Прэзідэнта была карова, пра якую цяпер неяк не чуваць. Дадумоўвацца трэба, што Прэзідэнт памяняў карову на зайчыкі, а зайчыкі на гадзіннікі — такі рынкавы тавараабарот. Нашы ж старажылы павінны добра помніць пра колішні сацыялістычны маркетынг: *Sprzedaj krowy, sprzedaj konie, kup zegarek marki „Błonie"!* Такім чынам марка гадзінніка ўстаноўлена.

Жанчын, якія набіраюць многа паветра і дабіваюцца культурнай прэміі, не выпадае ўзнагароджваць ні аднолькавымі наручнымі гадзіннікамі, бо не змогуць перад сабою імі пахваліцца, ні рознымі, бо будуць сабе толькі зайздросціць. Не выпадае таксама даваць такі адзін, бо не ўсе змогуць ім карыстацца. А каб усе маглі карыстацца адным гадзіннікам, той гадзіннік павінен быць калектыўны, як любімае Прэзідэнту *коллекционное хозяйство*, і адпаведна вялікі, значыць вежавы, як на будынку праціўнага Прэзідэнту брытанскага парламента ці на Спаскай вежы запаветнага Прэзідэнту Крамля. Толькі, здаецца, у Белавежы няма адпаведнай — *потем отеп* — вежы...

А ці ж жанчыны, якія могуць набраць у грудзі многа паветра, не заслугоўваюць на сваю асобную вежу? Безумоўна! І павінна яна мець форму цыцатую, нагадваючую навукова ўстаноўленую іх адметнасць. Значыць, павінна яна мець кшталт свайго роду круглай піраміды — зікурата, як каліcь у Вавілоне. І туды пачапіць той Прэзідэнтаў гадзіннік.

Такога архітэктурнага ансамбля па свеце трэба шукаць са свечкаю. А вось у Белавежы быў бы — едзь і глядзі нанаглядна. І глядзець на такое цуда з'язджалася б сюды процьма турыстаў з цэлага свету. Неабходнымі сталі б аўтастрада і аэрапорт, выраслі б магутныя гатэлі і рэстараны. Для абслугоўвання турыстаў узніклі б тавaрыскія агенцтвы, на працу ў якіх з'язджаліся б, набіраючы многа паветра, *девушки с необъятной славянской родины* і то ў такой колькасці, што можна было б пажаніць усіх навакольных халасцякоў і яшчэ беспрацоўныя асталіся б. Выдаваўся б таксама, дзеля духовых патрэбаў не адно толькі шматлікіх гасцей, літаратурны альманах, у якім славуты — *потем отеп* — „белавежац" Янка Цялушэўскі даваў бы карысныя літаратурныя парады. А віцэ-прэм'ер Лешэк Бальцаровіч прывёз бы ў Белавежу самога Джэфры Сакса, які калісь быў даваў карысныя эканамічныя парады, каб той на свае вочы пабачыў карысці ад рынкачнай эканомікі.

Якая ж старановаваяводская мясцовасць можа пахваліцца зацікаўленнем Джэфры Сакса? А якой прысвечана больш за сто вершаў? А дзе ёсць стольскі зуброў і іншых месцаў моцы? І стольскі жанчын, якія могуць набраць многа паветра?

Таварышы белавежанкі і белавежцы! Хіба ж вы сораму не маеце, што адно толькі пра зацоканы павет так беспаветрана згадваеце? Маючы такія козыры, не дурыце галавы паветам, а ганарыста набірайце духу і валяйце ў Варшаву па належнае вам ваяводства!

Адам Маньяк

# Сардэчныя тайны

Ведаеш, Сэрцайка, хлопец мой вельмі мілы, сімпатычны і наогул ён добры чалавек. Я пры ім адчуваю сябе спакойна і бяспечна. Ведаю, што для мяне ён бы кінуўся ў агонь і ваду. Абараніў бы мяне ад кожнага, няхай бы хтосьці толькі брыдка да мяне адазваўся, а ўжо не ўяўляю сабе, што было б, калі б нехта скрыўдзіў мяне.

Мой хлопец гатоў задаволіць кожны мой капрыз, любую просьбу. Маё жаданне — для яго закон. А часам дык мяне ён пачынае смяшыць (гавару табе гэта ўсё ў надзеі, што ён не прачытае). Зімою пайшлі мы ў парк. Во каб выкачацца ў такім снезе, кажу. А ён: бах, — і ўжо ляжыць. Пацягнуў мяне на сябе. А мне ўжо і качацца не хочацца. Ну, нельга ж так усё рабіць па заказе.

Дальбог, часамі гляджу я на яго, а ён увесь такі разнегліжаваны. Усё ў яго — як на далоні. Я ўжо ведаю, як і калі ён зарэагуе, што скажа, куды пойдзе. Ніякай таямнічасці!

А мне б хацелася, каб ён мне не ўсё сказаў, каб нешта пакінуў сабе, так, як гэта робяць іншыя хлопцы. Каб быў крыху таямнічы, яшчэ неспазнаны. А так пачынаю памаленьку траціць зацікаўленне яго асобай.

Зразумей, мы ўжо ходзім паўгода. Я пачынаю прывыкаць да яго, быццам да брата. Нават не пасварымся ніколі. На ўсё згаджаецца, а ў дробнай спрэчцы ён заўсёды менавіта мне прызнае рацыю. Ужо часамі хочацца адпачыць ад яго, накрычаць, не гаварыць некалькі дзён, каб пасля было прыемней спаткацца, — дык жа не.

Мой хлопец доўга быў маім кліентам (я працую ў цырульні), і тады мне ўсё ў ім падабалася. Я марыла пра тое, каб быць яго дзяўчынай, а цяпер вось маю сумненні, ці добра я выбрала. Мне нават здаецца, што наша сяброўства можа не пратрываць, бо ў некаторых момантах ён мне робіцца нават непрыемны.

Аднойчы сустрэліся мы ў кватэры яго сябра. Ён даў нам „хату" ўсяго на паўгадзіны. Праз паўгадзіны меў вярнуцца з дзяўчынай. Я — як на іголках. Спяшаемся. Няма калі нават распранацца, бо тады на апрананне часу не хопіць. А ён мне кажа: ведаю, чаму ты не распранаешся. Чаму? — пытаюся. Бо ў цябе сёння кашулька брыдкая, гаворыць. А табе што, кашулька найважнейшая? — пытаюся, а мо больш сцвярджаю. А ўсё ж гэта з-за кашулькі ты не хочаш распранунуцца, упіраецца ён.

Сэрцайка, а калі б нават дзеля не вельмі прыгожай кашулькі не хацела я там распрануцца, дык павінен ён мне пра гэта гаварыць? Нічога ў сабе ўтрымаць не можа...

А ў апошні час дык ён мне сказаў такое, што я не ведала: плакаць ці смяяцца. Уяві сабе, паслалі мяне ў Варшаву на трохдзённы курс. Там, дальбог, дыхнуць не было калі! Усё заняткі ды заняткі. Вечарам — на каву з дзяўчатамі, і ўсё.

Прыязджаю дахаты, а ён мне робіць сцэну. Нібы я там здрадзіла яму. Я кажу: а ты што рабіў? Я?!! Я цябе чакаў, усклікнуў ён. Адзін раз толькі табе здрадзіў!

У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладзела. З кім? Хто гэта быў? А ён спакойна, хаваючы вочы: з Рэняй Грабоўскай. А хто яна? — пытаюся, працуе з табой, ці што? Ды не, не ведаеш, хто гэта Рэня Грабоўская...

І тут я дадумалася, што абазначае яго жаргон. Божачкі, дык нават пра тое, што ён ананізаваўся, ён мусіў мне сказаць... Чалавеча, ну, пакінь нешта сабе! Будзеш больш каханы...

Ці маю я рацыю, Сэрцайка, і ці можна яго змяніць?

**Ліля**

*Ліля!* Маеш рацыю, што гэтага не любіш, але змяніць, здаецца, тут нічога не ўдасца. Такі ўжо ён ёсць. Гэта характар! Яго можна цярпець, а мо камусьці ён нават падабаецца. Але, згаджаюся з табой, калі ў партнёра няма малейшай дозы таямнічасці, ён наогул перастае быць цікавы. Мяркую, што неўзабаве твае пачуцці да гэтага хлопца значна ахаладзяцца.

Сэрцайка

PS. А некаторыя ж вось толькі на такога мужа палююць...